

дабудавалі другую – адміністрацыйны будынак з бібліятэкай, кавярняй, і кіназалай.

## Музей і Асяродак Беларускай Культуры ў Гайнаўцы (2003- )

Аб'яднанне некалькі разоў змяняла назоў. Канчаткова ў 2003 годзе было пранята рашэнне аб наданні тытула Музей і Асяродак Беларускай Культуры ў Гайнаўцы. Завяршэнне будовы адбылося ў 2001 годзе. Ад 2002, пасля 17 гадоў пабудовы Музей мог заняцца культурна-асветнай дзейнасцю, дзеля якой быў створаны.

З Хронікі Музея, апрац. Юлян Казбярук



## II. KONSTANTY MOJSIENIA – budowniczy Muzeum Białoruskiego w Hajnówce




Urodził się 15.08.1923 r. we wsi Wielka Lipa, rejon Nieśwież, miński okręg (Białoruś). Ojciec Mikołaj, matka Maria z domu Bułhak, wywodzili się z rodzin chłopskich. Przed wojną Konstanty skończył 7 klas szkoły podstawowej. Podczas wojny pracował z rodzicami na gospodarstwie. Po wojnie pracował jako ślusarz przy odbudowie zniszczonej kolei Baranowicze - Brześć. W 1945 roku przyjechał do Polski i od 1946 do 1949 roku pracował w Państwowym Urzędzie Repatriacyjnym w Bielsku Podlaskim jako kierownik referatu finansowego oraz w Spółdzielni Budowlanej „Zręb" jako księgowy. W 1948 roku skończył liceum dla dorosłych w Bielsku Podlaskim, a następnie studia w Wyższej Szkole Ekonomicznej w Poznaniu. Po studiach rozpoczął pracę w charakterze głównego księgowego w Spółdzielni Kołodziejskiej w Mikłaszewie pow. Hajnówka. W 1954 r. został powołany na stanowisko dyrektora Technikum Ekonomicznego w Bielsku Podlaskim. Następnie pracował w Powiatowym Zarządzie BTSK w Bielsku Podlaskim na stanowisku przewodniczącego.

W latach 1958-59 był dyrektorem Przedsiębiorstwa Budowlanego w Bielsku Podlaskim. W tym okresie zbudował min. Liceum „Białoruskie" im. Bronisława Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim. Od 1960 r. był prezesem Powiatowego Zarządu Gminnych Spółdzielni (PZGS) w Hajnówce. W latach sześćdziesiątych na terenie pow. hajnowskiego wybudował ponad 100 sklepów wiejskich, które dzięki inicjatorowi potocznie nazywano „Mojsieniówkami". Sklepy budował razem z



robotnikami, z kielnią i łopatą w ręce. Konstanty Mojsienia był inicjatorem powołania do życia Spółdzielni Budowlanej „Czyn" w Hajnówce oraz przeprowadzenia społecznej metody komasacji gruntów w niektórych wsiach, m.in. Kapitańszyzna, Ochrymy, Olchówka. Przez pewien okres pełnił funkcję radnego Powiatowej Rady Narodowej w Hajnówce, a za zasługi w rozwoju hajnowskiej wsi został odznaczony Krzyżem Kawalerskim Orderu Odrodzenia Polski. W wyniku doniesień w 1968 roku Konstanty Mojsienia został wyrzucony z PZPR „za nacjonalizm", czyli za białoruski patriotyzm, polegający na ciężkiej pracy na rzecz mieszkańców powiatu hajnowskiego. Jego jedyną winą było to, że publicznie przyznawał się do białoruskości.
Później objął funkcję dyrektora firmy budowlanej w Kolnie (1969), a następnie w Przedsiębiorstwie Torfowym "Las" w Imszarach koło Michałowa (1971-75). Ważne w jego karierze zawodowej było też pełnienie funkcji dyrektora Wojewódzkiego Zakładu Ceramiki Budowlanej w Starym Lewkowie (1975-77), Wojewódzkiego Rolniczego Zakładu (SKR) w Narewce (1977-80), był również prezesem Kołchozu w Bielszczyźnie (1980-81). Udzielał się także w jedynej w tamtych latach organizacji mniejszościowej w Polsce, a mianowicie w Białoruskim Towarzystwie Społeczno - Kulturalnym (BTSK) w Białymstoku początkowo jako sekretarz, a później zastępca prezesa (1981-88). Ostatnim miejscem pracy był Kołchoz w Bielszczyźnie (1988-1991), z którego to w 1991 roku odszedł na emeryturę.

Był autorem różnych przedsięwzięć, zainicjował między innymi komasację ziemi we wsiach, był inicjatorem powstania zespołu śpiewaczego „Cegiełki" i wielu innych. Oprócz pracy zawodowej zawsze zajmował się działalnością społeczną. Należał od samego początku do BTSK, był jego organizatorem i aktywnym działaczem.

Najwięcej czasu, pracy i serca poświęcił jednak budowie Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce – Muzeum Białorusinów całego świata, żywego Pomnika Kultury Białorusinów. W latach osiemdziesiątych wystąpił z inicjatywą wybudowania muzeum i przez kilkanaście lat kierował pracami Społecznego Komitetu Budowy Muzeum. To on inicjował na ten cel zbiórki pieniężne wśród społeczności białoruskiej w Polsce oraz wśród białoruskiej emigracji w Europie Zachodniej, USA i nie tylko. Kwestował na budowę muzeum w różnych miejscach ważnych dla Białorusinów, m.in. na św. Górze Grabarce. Na białoruskich imprezach razem ze swoimi pracownikami organizował loterie fantowe i sprzedawał białoruskie książki.

Przedsięwzięcie budowy Muzeum - także dzięki staraniom Konstantego Mojsieni - wsparły również władze Republiki Białoruś, przekazując w darze materiały budowlane, wyposażenie techniczne i pomoc finansową. Stale zabiegał również o pomoc od państwa polskiego. Ogromne, osobiste zaangażowanie Konstantego Mojsieni pomogło zgromadzić wiele muzealnych eksponatów, przede wszystkim od białoruskiej ludności regionu - wiele z nich uratowano w ten sposób od zniszczenia i zapomnienia.



Przez okres budowy otrzymywał wiele podziękowań i nagród od władz Polski za wieloletnią ważną, ofiarną, twórczą, sumienną pracę, za rozwój dobrosąsiedzkich związków Polski i Białorusi. W 1964 roku otrzymał odznakę Zasłużony Działacz Ruchu Studenckiego od Rady Naczelnej Studentów, odznakę 1000- lecia Państwa Polskiego. Wiele nagród, pochwalnych listów i podziękowań otrzymywał od Ambasady Republiki Białoruś w Polsce, od Generalnego Konsulstwa Republiki Białoruś w Białymstoku, od Ministerstwa Edukacji i Kultury na Białorusi, od Białoruskiego Towarzystwa „RADZIMA", od Ministrów Republiki Białoruś. Pośmiertnie przyznano mu nagrodę Republiki Białoruś w dziedzinie kultury: Order imienia Franciszka Skaryny ( 2010 r.).

Konstanty Mojsienia zmarł w Hajnówce w 2006 roku, spoczął na prawosławnym cmentarzu w Hajnówce.  W 2008 r. w Muzeum i Ośrodku Kultury Białoruskiej w Hajnówce uroczyście odsłonięto tablicę upamiętniającą Konstantego Mojsienię - legendarnego animatora działań białoruskiej mniejszości narodowej na Białostocczyźnie i w Polsce.

*"Сын беларускага народа - Канстанцін Мікалаевіч Майсеня – Беларус па нацыянальнасці, грамадзін Рэспублікі Польшча, ён пакінуў след у гісторыі двух народаў, унёс вялікі асабісты ўклад ва умацаванне беларуска – польскіх стасункаў."*

Н. У. Салук - "Голас Радзімы", галоўны рэдактар[8]

*„Ja oddanie lubię i lubiłem swój białoruski pracowity naród i poświęciłem całe swoje życie i zdrowie małej Ojczyźnie - Hajnowszczyźnie i Hajnówce oraz wielkiej Ojczyźnie - Rzeczpospolitej Polskiej".*

Konstanty  Mojsienia, grudzień 2005 r.

[8] "Ніва" 29.10.2006



# III. ARTYKUŁY-wspomnienia i opinie

## 1. Валянціна Швайко: З гісторыі стварэння беларускага музея ў Польшчы

Ідэя збірання і захавання здабыткаў матэрыяльнай культуры беларусаў у Польшчы і стварэння беларускага музея з’явілася разам з заснаваннем Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Ужо ў 1956 годзе Галоўнае праўленне БГКТ арганізавала ў Бельску Падляшскім і Гарадку дзве этнаграфічныя выстаўкі. У 1958 годзе беларуская экспазіцыя карысталася вялікім поспехам на выстаўцы народнага мастацтва нацыянальных меншасцей ў Кракаве. У 1962 годзе па ініцыятыве Галоўнага праўлення БГКТ быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы Рэгіянальнага беларускага музея ў Белавежы. Аўтарам рэалізацыі ідэі стаў вядомы беларускі грамадскі дзеяч К. Майсеня. Галоўнымі мэтамі дзейнасці музея павінны былі стаць захаванне здабыткаў матэрыяльнай культуры беларусаў Падляшша, навуковая апрацоўка экспанатаў, а таксама даследаванні ў сферы этнаграфіі і гісторыі краю. З 1964 года пачаўся збор этнаграфічных экспанатаў у беларускіх вёсках, якія некаторы час захоўваліся ў прыстасаваных памяшканнях у Гайнаўцы і Нараўцы, а потым – у Белавежы.

12 сакавіка 1966 года Рэгіянальны беларускі этнаграфічны музей у Белавежы быў адкрыты. Кіраўнікам яго стаў У. Гацута. На момант адкрыцця ў фондах музея знаходзілася 269 экспанатаў, а ў 1970 годзе іх колькасць вырасла да 900 пазіцый. Экспанаты збіралі ўсёй беларускай грамадскасцю, мелі яны вялікую гістарычную і этнаграфічную каштоўнасць. Музей штогод наведвала каля 7-8 тысяч чалавек, у тым ліку і турысты з-за мяжы. Апрача выставачнай дзейнасці, супрацаўнікі музея праводзілі навуковую і лектарскую працу, арганізоўвалі спецыяльныя заняткі для вучняў беларускіх школ, матэрыялы іх даследаванняў друкаваліся на старонках “Нівы” і “Беларускіх календароў”. Была пачата праца па збору архіва запісаў народнай музыкі і песень, а таксама фотаархіва архітэктурных помнікаў Падляшша. За першыя гады існавання музея тут былі створаны наступныя выставачныя раздзелы: землеапрацоўчых прылад, прылад па апрацоўцы сыравіны, прыгатавання і захоўвання ежы, народных строяў, ткацкіх вырабаў, саломапляцення і вырабаў з дрэва, палявання і збіральніцтва, рыбалоўства, ганчарства, транспартных сродкаў, кавальства, пчалярства, мастацкай творчасці.

У 1972 годзе ў музеі ў Белавежы налічвалася ўжо больш за 1200 экспанатаў. Вялікай праблемай у гэты перыяд стала адсутнасць месца для іх

захавання і экспанавання. Па ініцыятыве БГКТ пачаўся пошук новага будынку для патрэб музея, але пытанне так і не было вырашана. На хвалі агульнага пагаршэння адносін да нацыянальных меншасцяў у Польшчы музей быў ліквідаваны. Нягледзячы на тое, што Рэгіянальны беларускі этнаграфічны музей набыў вядомасць сярод навукоўцаў і шырокую папулярнасць (у 1970 годзе яго наведалі больш за 14 тысяч чалавек), Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы ў 1972 годзе прыняло рашэнне аб перадачы яго фондаў Ваяводскаму музею ў Беластоку, датацыі ад міністэрства на яго ўтрыманне былі скасаваны, была таксама ліквідавана штатная адзінка супрацоўніка, а 1 лютага 1973 года быў зачынены і Камітэт пабудовы будынку для Беларускага музея. Без увагі на тое, што БГКТ прыняло пастанову аб устанаўленні патранату над экспанатамі музея, большая частка яго фондаў была хуткімі тэмпамі перададзена Беластоцкаму музею, а затым размешчана ў музеі гаспадаркі ў Цеханоўцы, а фактычна – бясследна знікла.

Разам з тым ідэя стварэння менавіта беларускага музея на Падляшшы не пакідала беларускую грамадскасць. У 1980 годзе ГП БГКТ звярнулася да мясцовых улад з просьбай аб магчымасці арганізаваць ў Беластоку такі музей. Гэтая спроба аказалася няўдалай. Але, дзякуючы намаганням К. Майсені, праект пабудовы і арганізацыі цэнтра захавання здабыткаў беларускай культуры знайшоў сваю рэалізацыю ў Гайнаўцы. У 1981 годзе на старонках “Нівы” была надрукавана адозва гайнаўскага гуртка БГКТ з заклікам да збірання экспанатаў для беларускага музея. Месцам будучай культурна-асветнай пляцоўкі была абрана тэрыторыя закінутай лесапілкі, гэтую зямлю плошчай больш за 8 гектараў мясцовыя ўлады перадалі ў доўгатэрміновае карыстанне для БГКТ.

У 1984 годзе быў заснаваны Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы (была такая ў той час назва) на чале з К. Майсенем. У першую чаргу была створана канцэпцыя дзейнасці музея, распрацаваны праект пабудовы будынку, і ў хуткім часе быў атрыманы дазвол улад на яго рэалізацыю. На заклік аб збіранні сродкаў на пабудову беларускага музея ў Гайнаўцы адазваліся шматлікія прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці, прадпрымальнікі, а таксама грамадскія ўстановы Польшчы. Грашовыя сродкі паступалі і з-за мяжы. Значны ўклад у справу пабудовы беларускага музея ўнеслі таксама ўлады БССР, а пазней і Рэспублікі Беларусь: дапамога аказвалася будаўнічымі матэрыяламі, было падаравана музейнае абсталяванне. Фінансавыя сродкі паступілі і з боку польскай дзяржавы, праваслаўнай царквы. Большасць музейных экспанатаў, як і падчас стварэння беларускага музея ў Белавежы, былі дабраахвотна падараваны жыхарамі Падляшша. Дзякуючы агульным намаганням была створана сур’ёзная этнаграфічная экспазіцыя.



Першая выстаўка ў яшчэ ў не да канца адрамантаваным будынку адбылася ў кастрычніку 1990 года, экспанаваліся творы мастакоў з Беларусі, была наладжана і этнаграфічная экспазіцыя. У 1994 годзе ўзніклі істотныя фінансавыя праблемы, паўстала пытанне аб далейшым лёсе музея. Згодна з прынятым рашэннем звярнуцца за дапамогай да польскіх уладаў, было падпісана пагадненне з ваяводскім упраўленнем аб стварэнні дзяржаўнай установы культуры “Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы” з захаваннем права ўласнасці на зямлю, нерухомасць і экспанаты за Камітэтам пабудовы. 1 студзеня 1997 года Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы быў афіцыйна адкрыты. Дапамогу ў апрацаванні музейнай экспазіцыі на той час аказала Рэспубліка Беларусь.

У кастрычніку 2003 года будынак беларускага музея ў Гайнаўцы агульнай плошчай 2700 квадратных метраў урэшце быў поўнасцю ўведзены ў эксплуатацыю. У сувязі з гэтым Грамадскі камітэт пабудовы Музея быўператвораны ў арганізацыю – Аб’яднанне “Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы”, старшынёй якога абраны М. Мордань, а дырэктарам музея прызначаны Я. Карпюк.

За апошняе дзесяцігоддзе ў музеі стала працуе этнаграфічная экспазіцыя, ладзяцца разнастайныя мастацкія і фотавыстаўкі, працуе кіназал, бібліятэка, адбываюцца метадычныя канферэнцыі, творчыя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі і паэтамі. Пры музеі створаны і дзейнічае этнаграфічны гурток “Этна”, удзел у якім прымаюць вучні Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

Падтрымліваецца плённае супрацоўніцтва з Пасольствам Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча, Генеральным консульствам Беларусі ў Беластоку, пры падтрымцы якіх штогод адбываецца шэраг разнастайных культурных мерапрыемстваў. З 2008 года супрацоўніцтва падтрымоўваецца з Культурным цэнтрам Беларусі ў Польшчы. Дадатковыя магчымасці развіцця музея стварае супрацоўніцтва з разнастайнымі культурнымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь. Рэгулярна ў музеі адбываюцца выставы з фондаў музеяў Беларусі, арганізуюцца Дні беларускай культуры, Дні беларускага кіно, іншыя мерапрыемствы.

На сённяшні час Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы – адзіная культурна-асветная ўстанова беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшы, якая займаецца збіраннем і захаваннем артэфактаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў Падляшскага рэгіёна. Дзейнасць музея вядомая далёка па-за межамі Польшчы, асабліва ў асяродках беларускай

дыяспары замежжа як прыклад плённай працы на карысць захавання і развіцця нацыянальных традыцый і культры, папулярызацыі беларускай культурнай спадчыны ў свеце.

**Валянціна Швайко**
кандыдат гістарычных навук, дацэнт
(кафедра ўсеагульнай гісторыі
Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна)



## 2. Pracownicy Muzeum

## Янка Ляшчук – першы штатны працаўнік Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы

Я нарадзіўся ў вёсцы Болтрыкі. На сённяшні дзень гэта вёска заліта вадою. Яе, як і многа іншых вёсак, ахвяравалі пад будову вадасховішча Семяноўка. Мы разам з бацькамі прадалі сваю хату і зямлю і пераехалі жыць у Гайнаўку.

Так склалася, што гутарка маёй вёскі вельмі блізкая беларускай літаратурнай мове. Я сам лічу сябе беларусам. Польскую мову пачуў толькі ў першым класе пачатковай школы ў Рыбаках. Да гэтага ўвесь час карыстаўся і карыстаюся сваёй роднай мовай. Таму і праца ў беларускім музеі блізкая па сутнасці майго паходжання і маіх каранёў.

**Як я пазнаёміўся са спадаром Майсеняй?**

Як раней я успамінаў, мы разам з бацькамі пераехалі жыць з роднай вёскі ў горад Гайнаўка. Тады я пачаў працаваць шафёрам у СТВ.
Аднаго разу спаткаў настаўніка з пачатковай школы нумар 2 у Гайнаўцы. Яго звалі Пётр Гіншт. Ён сказаў мне, што тут, у Гайнаўскім беларускім музеі патрабуюць чалавека на пасаду шафёра. Пайшоў да музея і трапіў у бюро, якое знаходзілася яшчэ ў частцы „А”- там дзе была „мазаікарня”. Там першы раз сустрэўся са старшынём Майсеняй. Запытаў пра працу. Аказалася, што яшчэ на гэтае месца не прынялі нікога. Тады хуценька, яшчэ таго самага дня, напісаў заяву і чакаў вынікаў.

У хаце не сядзеў занадта доўга. Праз два дні прыйшла інфармацыя, што маю выходзіць на працу. Старшыня Майсеня прыняў мяне 25 лютага 1991 года. Варта адзначыць, што з'яўляюся першым працаўнікам музея прынятым на поўны штат. Тады разам са мой працавалі яшчэ: Яланта Вішнеўская і Галіна Маліш – з Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Ілля Агіевіч – бухгалтар, Міхась Голуб – кансерватар.

Першым заданнем на новай пасадзе было звезці са складоў на Горным плітку і тэракоту, патрэбную для пабудовы музея. Усе гэтыя будаўнічыя матэрыялы мы атрымалі з Беларусі, але трэба было ачысціць склады і перавезці іх у музей.

**Пабудова музея.**

Старшыня Майсеня, у час пабудовы музея, займаўся перадусім афармленнем і набыццём будаўнічых матэрыялаў, а таксама і асабістым прывозам іх у Гайнаўку.

Мы разам са старшынёй ездзілі ў Мінск у Беларусь, каб там вырашаць справы, звязаныя з пабудовай музея.

Цікавая сітуацыя ўзнікла калі паехалі ў Кукурыкі па граніт і мармур. На мяжы, на зваротным шляху, аказалася што не можам перавезці груз. Трэба заплаціць мыта. Мяне перапусцілі праз мяжу без пашпарта і я далярамі аплаціў гэтае мыта. Пакуль нас прапусцілі праз мажу, прайшлося чакаць 48 гадзін.

У пабудове Музея вельмі многа дапамагаў фонд культуры з Мінска „Радзіма” (вуліца Захарава 20), якім кіраваў старшыня Васілёнак. Ад іх ішлі да нас усе „падарункі” прызначаныя на пабудову музея.

**Машына РАФік**

Адкуль узяўся РАФік?

РАФік падарыў нам фонд культуры „Радзіма”. Гэта была машына з Латвіі. Фонд Радзіма пералічыў грошы на гэты завод а РАФік трапіў у Гайнаўку да нас. Другой такой машыны на польскіх дарогах не было. РАФік быў цёмна-сіні з шырокай жоўтай паласой уздоўж аўтамабіля. Месцілася ў ім 12 асоб.
РАФік служыў музею 20 гадоў. Ім мог ездзіць толькі я. За гэтыя 20 гадоў ніхто не сеў за руль РАФіка апрача мяне. З правага боку заўсёды сядзеў спадар Майсеня, гэта было яго месца.

Ездзілі мы афармляць розныя справы, звязаныя з пабудовай музея. Ездзілі на экскусіі ў Беларусь (Мінск, Гродна, Брэст), арганізаваныя для людзей, якія грамадскім чынам памагалі будаваць музей (нп. устаўлялі і мылі вокны). На сённяшні дзень можам назваць іх добраахвотнікамі, людзьмі вялікага сэрца.
Машынай карысталіся яшчэ на фэстах. РАФікам перавозілі краму і кніжкі на фэсты.

Каб фінансава дапамагчы музею збіралі грошы ў скарбонку і арганізоўвалі латарэю. Кожны мог узяць у ёй удзел і купіць лёс. Лёс каштаваў 1 злот. Не было пустых лёсаў. Кожны перамагаў. Можна было выйграць, між іншым, беларускія кніжкі і гадзіннік на руку з выявай Пагоні.

**Як паехалі ў Мінск.**

Разам са спадаром Майсеняй мы паехалі ў Мінск афармляць дуб, абліцовачнаю плітку і мармур (мармур атрымалі ўжо другі раз).

Са старшынёй трапілі ў Мінск у Дом Урада. Майсеня пайшоў да спадара Краўчанкі – тагачаснага міністра замежных спраў. Я стаяў перад



Домам Урада і чакаў. Нехта падыходзіць да мяне і пытаецца чаго я тут стаю? Я аглянуўся і ўбачыў міністра Краўчанку. Кажу яму, што старшыня Майсеня пайшоў да яго. На што Краўчанка забраў мяне з сабой у свой кабінет. Уваходзіць Старшыня. Убачыў, што я з'явіўся першы ў міністра перад ім. Пачаліся перагаворы і абмеркаванні. Мы мелі выбраць колер абліцовачнай плізкі, фабрыка якой знаходзілася ў Мінску. Са старшынёй вырашылі паехаць на гэты завод. Там ужо ўсё дакладна заказалі – плітку і яе колер. У Гайнаўку трапіла 670 метраў беларускай пліткі, якая была выкарыстана ў галоўным будынку музея, у частцы С; пліткай абліцавалі сцены музея звонку.

Было тое ў самым пачатку зімы. Хутка наступіў вечар, зрабілася позна. Разам са Старшынёй вырашылі вяртацца дадому. Насыпала каля 30 см снегу. Калі дабраліся з Мінска ў Гродна была шостая раніцы. Там заехалі да прафесара Габрусевіча. Выпілі гарачай гарбаты, пагаварылі. Прафесар Габрусевіч, як кіраўнік аддзела фонду „Радзіма" ў Гродне, быў нашай справе вельмі прыхільны. З Гродна вярнуліся ў Гайнаўку і прыехалі адразу ў музей.

Ад міністра Краўчанкі атрымалі яшчэ дуб. Краўчанка сказаў, што дуб на пабудову беларускага музея не можа быць аднекуль, толькі з Белавежскай пушчы. Кебіч – прэм'ер-міністр Савета міністраў Беларусі выдаў дазвол, каб дуб перавезці самай блізкай дарогай, праз Белавежу.

Трэба было зноў ехаць і афармляць справу транспарту дуба з Беларусі. Паехалі разам са Старшынёй і Іванюком з Вітава ў Камянюкі. Каб да канца вырашыць справу дуба трэба было ездзіць не менш 10 разоў. Там выбралі дуб, сказалі як яго канкрэтна парэзаць. Да гэтага аформілі мытню. Спадар Васілюк са Звадзецкіх дапамог аформіць мытню і пагранічнікаў з польскага боку.

На працягу паўтара месяца - ўжо гатовы парэзаны дуб прыехаў да нас трыма грузавымі машынамі праз Белавежу. Яго было 66 кубічных метраў. Аднак нас саміх не прапусцілі праз мяжу ў Белавежы. Трэба было ехаць на пагранпераход у Палоўцах. Пакуль прыехалі, увесь дуб быў практычна разгружаны. Тады разгрузкай займаўся Міхась Голуб.

З гэтага дуба былі выкананыя сталяром Болтрыкам з вуліцы Заенчай у Гаўнаўцы ўсе дзверы ў будынак С, панэльная ашалёўка і паркет.

**Інсталяцыя**

Старшыня Майсеня стараўся атрымаць грошы і з польскага боку на заканчэнне прац у будынку С. Тады прэм'ерам з'яўляўся Цімашэвіч. Старшыня напісаў адпаведнае пісьмо і мы атрымалі шмат грошай. Гэтыя грошы выкарысталі на процімаланкавае збраенне будынку, цэнтральнае аграванне у галоўным будынку, атынкоўку і супрацьпажарную сістэму, электраўстаноўку і антырабаўнічыя сістэмы.

Драўляныя вокны былі куплены ў Саколцы, дзе існавала сталярская фабрыка. Кіраўніцтва гэтай фабрыкі было вельмі прыхільнае ініцыятыве пабудовы музея. Таму і вокны былі купленыя намі па больш нізкай цане, хаця яны і так каштавалі шмат. Вокны прывёз да музея, грамадскім чынам, спадар Панасюк з Горнага.

**Супрацоўніцтва з Майсеняй**

Са старшынёй Майсеняй працавалася вельмі лёгка. Гэта быў чалавек аддany ініцыятыве. Проста жыў музеем. Хацеў, каб усе справы былі даведзеныя да канца, вырашаныя хутка. Здаралася, што ўвесь дзень мы са Старшынём праводзілі ў музеі. Працавалі па 15-16 гадзін штодня. Майсеня кожнага свайго працаўніка пільнаваў, каб той рабіў, што належыць да яго абавязкаў. Гэта быў кіраўнік, якіх цяпер амаль няма. Да гэтага часу не з’явіўся кіраўнік, які сваёй асобай і працай мог бы раўняцца са старшынём Майсеняй.

**Хіліманюк Янка**

Хіліманюк Янка з’яўляўся намаснікам Майсені. Пасля хваробы першага старшыні музея спадар Хіліманюк пераняў яго абавязкі. Пачаў весці музей грамадскім чынам.

Першым яго заданнем было давесці незавершаныя справы да канца. Ён займаўся добрым выкарыстаннем грошай ад Цімашэвіча. Пры гэтым працавала фірма БЭП з Бельска Падляшскага. Фірма зрабіла ўсе інсталяцыі.

Па ініцыятыве спадара Прускага са Злучаных Штатаў Амерыкі музей атрымаў 35 тысяч. Ён зарганізаваў сярод беларусаў, якія жылі і Амерыцы збор грошай на музей. За гэтыя грошы мы палажылі граніт і мармур на лесвіцу і выканалі поручні ў галоўным будынку С, там дзе цяпер адбываюцца выстаўкі. Сам спадар Прускі нарадзіўся на Беларусі. Ён некалькі разоў наведаў наш музей. Бываючы ў Польшы пазнаў сваю жонку, якая родам з Кляшчэляў.

Спадар Хіліманюк даведаўся, што існуе швайцарска-польская арганізацыя. Яго намаганнямі гэтая арганізацыя пераказала музею 550 тысяч. Гэтыя грошы музей выкарыстаў, каб купіць лямпы, абліцаваць музей пліткай і атынкаваць знутры.

Намаганнямі Спадара Хілімонюка музей атрымаў свой сённяшні выгляд, а галоўны будынак С быў аддаены ў карыстанне. У будынку С пастроілі дзьве пастаянныя выстаўкі: “Пакуль хлеб ляжа на стале” і „Дзень за днем”, якія па сённяшні дзень можна аглядаць у музеі.

**Янка Карпюк**

На месца Янкі Хіліманюка прыйшоў Ян Карпюк. Ён служыў у якасці дырэктара. Спадар Карпюк быў прыняты на працу яшчэ за часы Майсені.





Працаваў як галоўны рэстаўратар экспанатаў. Прэзідыум музея выбрала яго на пасаду дырэктара. Старшынёю прэзідуума з'яўляўся тады Мірaслаў Мордань.

У час Янкі Карпюка была выкананая агароджа музея і ўпарадкавалі мезейную плошчу.

**Навагоднія балы**

Здаралася так, што не на ўсё хапала грошай. Аднойчы трэба было спусціць ваду з будынка Б, каб эканоміць на аграванні. Мы перайшлі ў будынак А, - гэтая частка была аграваная. Тады зрабілі першы навагодні бал. Зноў уключылі аграванне будынку Б. Грошай з мерапрыемства хапіла, каб заплаціць за цэнтральнае аграванне. Такім чынам зноў вярнуліся ў будынак Б.

Першы навагодні бал адбыўся яшчэ ў гады, калі старшынёй з'яўляўся спадар Майсеня. Ад гэтага часу балы ў музеі адбываюцца штогод. Яны праходзяць па юльянскім календары з 13 на 14 студзеня.

Адзін раз здарылася так, што бал не адбыўся. Тады ў Польшчы адбываліся змены. Людзі не мелі грошай, таму не было як зарганізаваць мерапрыемства.

Балы ў музеі падабаюцца гайнавянам. Людзі прыходзяць і гуляюць пры беларускай музыцы да белага ранку.

Ужо відаць, што месца старэйшых гасцей займаюць маладыя. Ёсць надзея, што балы ў музеі застануцца як штогадовая традыцыя.

**Тамаш Ціханюк**

Апошні дзеючы дырэктар музея – Тамаш Ціханюк.

Чалавек вельмі зарганізаваны. Многа часу прысвячае пісанню праектаў і арганізацыі фэстаў. Арганізуе іх пры фінансавай дапамозе Міністэрства Адміністрацыі і Цыфрызацыі.

Фэсты пад загалоўкам "І тут жывуць людзі" адбываюцца ў розных гмінах Гайнаўшчыны. Ездзім па вёсках з крамікам, прадаем кніжкі і рукадзелле. Людзі маюць магчымасць паслухаць канцэрты беларускіх калектываў. Нашыя фэсты даюць адчуць людзям на вёсках, што іх культура і мова не памірае. Важным фактам з'яўляецца і памяць пра іх, што яны жывуць і патрабуюць зярняці культуры.

На музейнай плошчы дадаткова арганізуем фэст "Культура на музейных сходах". Гэтым фэстам спадарожнічаюць розныя віды рукадзелля, канцэрты калектываў, крамікі для старэйшых і самых маленькіх, беларуская кухня.



## Янка Ляшчук – першы штатны працаўнік Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы

На сённяшні дзень мае ўспаміны пра музей заканчваюцца. Гісторыя застаецца гісторыяй, а ўсё што было, стала пачаткам дзейнасці беларускага музея ў Гайнаўцы. Дзякуючы маёй працы і працы другіх супрацаўнікоў музея можам радавацца тым, што ў нашым малым горадзе захавалася беларускасць. Тутэйшыя беларусы маюць свой анклаў. Музей – месца, якое прыцягвае да сябе цікавымі мерапрыемствамі, падзеямі, сустрэчамі з вядомымі беларусамі, выстаўкамі. Музей увесь час заахвочвае не толькі сталых беларусаў, але і маладых людзей да знаёмства з беларускай культурай і мастацтвам. Усведамляе людзям іх тоеснасць і карані. На маю думку, музей выконвае працу, дзеля якой яго будавалі.



**Янка Ляшчук-** kierowca, magazynier materiałów budowlanych, pracownik tech-niczny (od 25.02.1991)



## Галіна Маліш

Старшыню Канстанціна Майсеню я пазнала 15 жніўня 1987 г. калі прыймаў ён мяне на працу на штат інспэктара БГКТ па Гайнаўскім раёне. У гэты час ён быў штатным Старшынёю БГКТ у Беластоку і грамадскім Старшынёю Камітэта Пабудовы Беларускага Музея і Рэвалюцыйнага Руху ў Гайнаўцы. Мая праца пачалася ад пазнання ўсіх гурткоў БГКТ і дзеячоў Гайнаўскага Аддзела, а таксама гмін: Гайнаўка, Нарва, Чыжы, Нараўка, Кляшчэлі, Дубічы Царкоўныя, Чаромха.

Прыйша на працу на пачатак справаздаўча-выбарчай кампаніі БГКТ і было многа выездаў у рэгіён. У час спатканняў з дзеячамі мы заўсёды прасілі грашовай дапамогі для музея. Ужо тады важнай тэмай былі экспанаты. Калі нехта меў ахвоту пераказаць іх, я пісала дадзеныя і праз нейкі час прыязджалі забіраць. Апрача экспанатаў і грашовай дапамогі мы таксама шукалі новых сябраў камітэта. Калі нехта заплаціў складчыну ці дар, пісалі імянный спіс і высылалі ў “Ніву”. Гэтыя спісы ахвяравальнікаў друкавалі кожны тыдзень. Прыходзіла шмат ахвяраванняў у доларах і залатоўках ад беларусаў не толькі Польшчы, але ЗША, Канады і Аўстраліі. У 1987 г. выдалі “цаглінкі” ў наміналах 100, 200, 500, 1000 злотых на каля 7 млн злотых. Развозілі і выдавалі пад распіску ў школах, банках, гмінах, гуртках, прыватным асобам, дзякуючы якім пастаянна ўплывалі ахвяраванні. Часта збіраўся Камітэт Пабудовы Беларускага Музея , які супольна з Канстанцінам Майсеняй дзейнічаў грамадска і браў на сябе вялікую адказнасць.

Штатнымі працаўнікамі камітэта былі: бухгалтар Ілья Агіевіч, яму дапамагала Сп. Мар’я Данілецкая, паўнамоцнік Ян Тапалянскі, а таксама інспектар надзору пабудовы музея Сп. Аўгустын Цалка. На працягу двух гадоў маёй працы вярнулася Яланта Вішнеўская, якая працавала перада мною на гэтым штаце. І так у Таварыстве я са Старшынёю працавала яшчэ 4 гады. Тады ён адыйшоў з таварыства БГКТ у Беластоку. Я з Ялантай Вішнеўскай працавалі яшчэ год, да канца красавіка 1992г. Пасля мы засталіся без працы, але, дзякуючы Старшыні Канстанціну Майсені, не надоўга. Калі мы прыйшлі ў музей, сабраў ён усіх, хто ў гэты час працаваў, і сказаў: “Мы развітваемся з Вамі, як працаўнікамі БГКТ, а вітаем як працаўнікоў Музея. Вы працавалі для гэтай справы ў іншым характары, а цяпер пачынаеце новы перыяд. Вы заслужылі, каб тут быць далей і працаваць“.Такім чынам ад 01 траўня 1992 г я стала працаўніком музея на штаце эканаміста. У гэты час праца была нялёгкай. Вяла з Янкам Лешчуком склад матэрыялаў, трэба было ўвесь час наводзіць парадкі, а таксама, калі была такая патрэба, Сп. К.Майсеня кіраваў нас укладаць будаўнічыя матэрыялы (складалі паркет, дошкі). Такім чынам больш грашай заставалася ў музейнай касе. Вялікую дапамогу атрымалі з Беларусі. Беларускі Фонд Культуры, Таварыства “Радзіма”, Згуртаванне





Бацькаўшчына і другія - гэта арганізацыі ад якіх мы атрымалі вялікую дапамогу. Памагалі яны як маглі, прывозілі цэмент, граніт, мармур, керамічную плітку, санітарныя прылады, абсталяванне для кіназалы, дуб, дубовыя дзьверы, электрычныя кабелі, аўтамашыну, мэблю, тэлевізары і многа іншага.

У разгрузцы вялікіх і цяжкіх матэрыялаў дапамагалі нам Гайнаўскія дзеячы, часам нехта з сям'і, за што ім вялікі дзякуй. Апрача матэрыялаў з Беларусі мы з 1992 г. пастаянна атрымлівалі кніжкі. Ахвяравальнікамі былі Міністэрства Культуры Рэпублікі Беларусь, Брэсцкая Абласная Бібіліятэка, Таварыства Бацькаўшчына, Консульства Беларусі ў Польшчы, настаўнікі і дзеці школы Мікалая Вадзіна ў Мінску, а таксама прыватныя асобы: Глеб Бабкін (Мінск), Анна і Марат Касцевіч (Мінск), Яўген Ігнатовіч (Вілейка), Алена Таболіч, Эдуард Агуновіч (Мінск), Сяргей Габрусевіч (Гродна). Многа кніжак атрымалі ад Марыі Скабей з Аўстраліі. Па некалькі экзэмпляраў кніжак пераказалі таксама: Мікалай Гайдук, Міхась Хмялеўскі, Яўген Чыквін, Уладзімір Юзвюк і Кастусь Майсеня. Старшыня хацеў стварыць бібліятэку і з гэтай мэтай менавіта мы збіралі і перахоўвалі ўсе кніжкі. Памяшканне для бібліятэкі знаходзілася ў частцы “Б”. К.Майсеня хацеў каб гэта была першая беларуская бібліятэка ў Гайнаўцы, а таксама ў Польшчы. Склікаў ён камісію, у склад якой уваходзілі настаўнікі беларускай мовы. Яны, пераглядаючы кніжкі, ацэньвалі іх прыдатнасць для музейнай бібліятэкі. У працах камісіі найчасцей браў удзел настаўнік Беларускага Ліцэя ў Гайнаўцы Сп. Васіль Сакоўскі. Падвойныя экзэмпляры кніжак пераказвалі ў школы. Астатнія кніжкі пераносілі ў кіёск, былі яны прызначаныя на продаж. Тады кожная залатоўка была цэннай, трэба было шукаць розныя спосабы на здабыванне сродкаў. Падчас фэстаў і святаў мы ездзілі са скарбонкай і збіралі ахвяраванні на пабудову і развіццё беларускага музея ў Гайнаўцы. У гэтых выездах удзельнічалі ўсе працаўнікі: Старшыня Майсеня, сп. Міхась Голуб, сп. Яланта Вішнеўская, я, а таксама пастаянный дзеяч Сп. Аляксей Харкевіч і іншыя, за што ім Вялікі Дзякуй. Ездзілі мы машынай музея “РАФ”, шафёрам быў Янка Ляшчук. Такія выезды былі плённымі, многа людзей папаўняла скарбонку, было што пераказаць на музей. Наш Старшыня быў чалавекам, які заўсёды меў новыя ідэі, як здабыць грошы. Ён выходзіў да людзей і яму памагалі. Вельмі цікавай ідэяй Старшыні была латарэя. На адным з выездаў ён сказаў: “Галіна, рыхтуйце кніжкі, будзем рабіць латарэю”. Яе заўсёды рыхтавалі камісійна, пры гэтым быў грамадскі дзеяч Спадар Аляксей Харкевіч, які заўсёды ахвотна дапамагаў. Гэтая задума Старшыні была трапнай, таму што прыцягвала людзей. Людзі былі зацікаўлены кніжкамі, цягнулі “лёсы”, а кожны “лёс” быў поўным. Гэта была таксама рэклама музея. “Бібліятэчным складам“ я займалася 5 з паловай гадоў, да канца 1997 г. У гэтым годзе памяшканне бібліятэкі было дабудаванае. У ім стаяла ўжо каля дзесяці шафаў



з кніжкамі, газетамі. Пачатак бібілятэкі быў, далей была патрэбная асоба, каб яе стварыць. У гэтым часе Старшыня Майсеня захварэў. Яго абавязкі пераняў Намеснік Старшыні Ян Хіліманюк, які ад пачатку працаваў грамадскім чынам пры Камітэце Пабудовы Музея. З канцом 1997 г. ён прыняў на штат у бібліятэку Сп. Наталлю Герасімюк, якой я пераказала збор кніжак.

Хвароба Старшыні ўжо не дазволіла яму вярнуцца ў музей. Канстанцін Майсеня быў чалавекам адданым беларускай справе, ахвярным да апошняй хвіліны. Без яго не было б Беларускага Музея ў Гайнаўцы. За гэта Яму Вялікі дзякуй.

Вечная памяць Вам, Старшыня Канстанцін Майсеня.



**Галіна Маліш -** ekonomista, bileter w kinie, referent ds. księgowo-finansowych (od 01.05.1992)

## Яланта Вішнеўская

Першыя мае кантакты з беларускімі арганізацыямі пачаліся ў 1983 г. Тады я пачала працаваць у ГП БГКТ на штаце раённага інспектара Гайнаўскага аддзелу. На працу прымаў мяне сакратар ГП БГКТ спадар Канстанцін Майсеня. Я, як маладая дзяўчына, якая скончыла Гайнаўскі агульнаадукацыйны ліцэй, лічыла сябе перад усім праваслаўнай. Нацыянальнасць не была для мяне важнай. Мае бацькі размаўлялі на беларускай мове і лічылі сябе беларусамі, але мая нацыянальная свядомасць паглыбілася ў сутыкненні з беларускімі арганізацыямі і беларускімі дзеячамі.

Мне было вельмі прыемна, калі светлай памяці спадар Віктар Рудчык у 50 нумары ,,Нівы'' з дня 11 снежня 1983 года напісаў артыкул аб падарожжы па Гайнаўшчыне і ў ім цёпла і сардэчна прывітаў мяне як інспектара Гайнаўскага аддзелу. У сваім артыкуле спадар Рудчык напісаў: ,,Ёля робіць уражанне дзяўчыны талковай і энергічнай. Добра гаворыць па-беларуску. Нядаўна закончыла нейкую пасляматуральную школу і цяпер адрабляе стаж.(...). Каб засталася даўжэй у таварystве... ''.

Мае сапраўдныя кантакты з беларускай мовай і літаратурай пачаліся ў верасні 1983 г. У гэты час я пачала знаёміцца з беларускім букваром і ,,Нівай'', сустракалася з цікавымі людзьмі з Беластока, Гайнаўкі і іншых мясцовасцяў.

Вясной 1984 г. спадар Канстанцін Майсеня першы раз завёў мяне на пляц у цэнтры горада і сказаў: ,,Тут будзе беларускі музей''. Я не паверыла, а сабе падумала: ,,які музей, тут крапіва, зелле''. Будынак па старой фабрыцы паркету быў знішчаны, вырваныя вокны і дзьверы. Усё выглядала страшэнна.

Міналі гады. Да нашага гайнаўскага аддзела БГКТ, які знаходзіўся ў Доме Настаўніка, прыходзілі беларускія дзеячы. Гэта была беларуская інтэлігенцыя: настаўнікі, юрысты, дырэктары, людзі, звязаныя з беларускай культурай, а таксама сталяры, будаўнікі і многія іншыя. Часта наведвалі нас таксама вучні з беларускага ліцэя, сябры розных беларускіх арганізацый і калектываў.

У 1983г. быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Пачалася будова і першыя ўзносы. Інспектарам кантролю быў спадар Аўгустын Цалка. Ад самага пачатку юрыдычнымі парадамі дапамагалі Стэфан Васілюк, Мікалай Клімюк, светлай памяці Вітольт Ожэхоўскі, Уладзімір Германюк.

Працаўнікі Музея супольна са старшынёю збіралі грошы на развіццё і дзейнасць музея. Праводзіліся зборы па вёсках, школах, на беларускіх фэстах. На рахунак музея ўплывалі таксама ахвяраванні беларусаў Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады і іншых краін. Штогод ладзіўся Навагодні Бал, даход з якога прызначаўся на пабудову Музея. Трэба прыгадаць Яна Якімюка, Гэлену



Ігнацюк, Мар’ю Цыборан, Веру Мацюку, Ніну Прыступюк, Мікалая Еўдасюка, Рыгора Сурэля і іншых.

Апрача членаў камітэта ў грамадскай працы пры музеі дапамагалі таксама гайнаўскія ўстановы: Сельскі кааператыў транспарту (STW), дырэктарам якога быў Мікалай Ляўчук, Керамічны завод у Старым Ляўкове, гайнаўскія сталяры: спадар Ян Даніловіч бясплатна зрабіў дзверы і вокны на галоўны хол; светлай памяці спадар Кандрацюк пераказаў балясы і парэнчы сходаў, дапамагаў транспартам; спадар Дарафеюк перадаў элементы сходаў. Частакол на агароджу музейнага пляцу бясплатна пераказалі Мікалай Варончук з Вялікіх Пасечнікаў, Ян Амельянюк з Хітрай, Міхал Аверчук з Пасталова, Уладзімір Крук з Катоўкі, Мікалай Габрылеўскі з Трывежы.

30 красавіка 1992 г. ГП БГКТ звольніла ўсіх раённых інспектараў. Я плачу і перажываю. Аднак светлай памяці старшыня Майсеня не пакідае мяне. 1 траўня 1992 года ён ўзяў мяне на працу на штат эканаміста ў Грамадскім камітэце пабудовы музея. Ад 1992г. мая праца звязана выключна з будовай і арганізацыяй Беларускага Музея.

Далей будуем Музей, збіраем экспанаты, грошы на развіццё Музея. Пасля кожнай грамадскай працы трэба было пісаць пратакол і ацэнку зробленага. У пратаколах з грамадскай працы выступаюць такія прозвішчы як Сяргей Кардаш, д-р Уладзімір Паскробка, Ян Ляшчук, Ян Карпюк, Васіль Сакоўскі і Аляксей Мароз з вучнямі з беларускага ліцея, Ян Аляксяюк, спадар Клімюк таксама з вучнямі з белліцея, светлай памяці Васіль Іванюк і Мікалай Еўдасюк з вучнямі з Комплексу прафесійных школ, Вольга Сянкевіч з вучнямі з белліцея. Усе грашовыя ўзносы былі дакладна занатаваныя і друкаваліся ў ,,Ніве’’. Вельмі прыемна, што паміж пералікамі ўзносаў ёсць спіс узносаў працаўнікоў ,,Нівы’’ і членаў ГП БГКТ, настаўнікаў беларускай і нямецкай моваў. Чаму потым беларуская арганізацыя, якая нібыта спрыяе Беларускаму музею, бярэ ад яго 250 тыс. зл.?

Светлай памяці К. Майсеня не толькі быў будаўнічым Музея . Ён таксама пачаў арганізаваць першыя выстаўкі . Мне запамяталася адна з першых выставак ,,Дзеці Чарнобыля’’ арганізаваная ў 1992 годзе. У гэтым часе ў мяне былі дзве малыя дачушкі. Было цяжка глядзець на здымкі дзяцей, якія нарадзіліся пасля аварыі ў Чарнобылі. Гэтыя дзеці былі без рук і ног. Страшна было глядзець.

Восенню 1997 г. старшыня Майсеня цяжка захварэў. Яго палажылі ў шпіталь. Намеснікам стаў Янка Хіліманюк. Тады ўжо быў адрамантаваны будынак ,,А’’ і закончана будова часткі ,,Б’’, а будынак ,, С’’’ быў у сырым стане. Дзякуючы намаганням Янкі Хіліманюка атрымалі грашовую дапамогу з Польска-Швейцарскага фонду. Што дапамагло давесці да канца будову часткі ,, С’’.

Першую пастаянную этнаграфічную выставу ,,Дзень за днем” падрыхтаваў Эдуард Агуновіч з Беларусі, другую ,,Пакуль хлеб ляжа на стале” - мастак з Гайнаўкі Віктар Кабац.





Таксама вельмі прыемна ўспамінаю выстаўку ,,Святая гара Афон''. На яе прыязджала шмат людзей з ваколіц Гайнаўкі і з усяе Польшчы. Гэтая выстаўка выклікала вялікае зацікаўленне. Мне часта прыходзілася праводзіць экскурсіі па музеі і заходзіць на гэтую выстаўку. Я там сябе вельмі добра адчувала і адразу папраўляўся настрой. Калі глядзела на фатаграфіі манахаў, у іх вачах бачыла спакой і любоў да другога чалавека.

Мінаў час. Музей існаваў яшчэ пад шыльдай Грамадскага камітэта пабудовы беларускага музея. Наш старшыня хварэў але ўсё прыходзіў да музея. Заўсёды паўтараў: ,,Музей гэта другі дом кожнага беларуса". Мы, працаўнікі музея, вельмі часта супольна са сваімі мужамі і жонкамі грамадска працавалі пры музеі, супольна рыхтавалі Навагодні Бал. Галіна Маліш, я - Ёланта Вішнёўская , Люцына Ляшчук прыбіралі, мылі падлогі, крэслы, сталы. Мужчыны: Ян Лешчук, Яўген Маліш і Міраслаў Вішнеўскі аздаблялі залу, насілі і расстаўлялі крэслы. У час Балу мужчыны дзяжурылі ў раздзявальні, а жанчыны займаліся арганізацыйнымі справамі.

2003 год. Здарылася так, як гаварыў старшыня. Першым дырэктарам Аб'яднання музей і асяродак беларускай культуры стаў Ян Карпюк. Усе працаўнікі музея разам з дырэктарам наведалі старшыню ў бальніцы. Усе прывіталіся з ім, крышку пагаварылі, бо ўжо і з мовай сп. Майсеня меў праблемы. На развітанне ўсе падалі яму руку. Маю моцна сціснуў і доўга не адпускаў. Тады першы дырэктар Музея сказаў: «Старшыня не пускае Ёлю і хоча яе пакінуць з сабой». Так мы развіталіся з нашым старшынёю спадаром Канстанцінам Майсеняй. Праз некалькі дзён старшыня памёр. 12 кастрычніка 2006 года адышоў ад нас будаўнічы Беларускага Музея, знакаміты і адданы беларускай справе чалавек.

Вечная Вам памяць спадар Майсеня!.



**Яланта Вішнеўская** - ekonomista, kasjer-bileter w kinie, referent ds. pracowniczych (od 01.05.1992)



## Tomasz Tichoniuk

Moja historia z Muzeum zaczęła się w 2004 roku, kiedy rozpocząłem w nim pracę w charakterze animatora kultury. Z tematem tym byłem związany już od ok. 10 lat, w związku z czym przystąpiłem do pracy od razu i ze studenckim zapałem.

O Muzeum w czasach mojej szkoły średniej wiedziało się tyle, że „jest w budowie", ale znaczenie tego przedsięwzięcia tkwiło gdzieś w świadomości takiej hajnowskiej młodzieży, która zresztą korzystała wówczas m.in. z muzealnej biblioteki czy kina, które również działało w Muzeum. W domu natomiast nieraz przewijały się tzw. „cegiełki" Komitetu po powrocie np. ze św. Góry Grabarki czy „Krynoczki". Później okazało się, że po studiach podjąłem tam pracę…

Od tamtej pory minęło ponad osiem lat, to osiem lat wytężonej pracy na rzecz pewnej sprawy. Były to szybkie lata i intensywne, obfite w różnego rodzaju doświadczenia, czasem nawet wydaje się, że tych lat jakby już więcej minęło. Podchodząc do przedmiotu publikacji na temat całego przedsięwzięcia pod ogólnym hasłem „Muzeum", dochodzi się do wniosku, że te osiem lat to najnowsza historia Muzeum i pierwsze lata działalności po mozolnych, długich i ciężkich latach budowy. Jednak na historię instytucji nie składa się wyłącznie okres budowy, ale i funkcjonującej już placówki, bo po to właśnie była ona budowana. Dziś to „żywy Pomnik Białoruskiej Kultury", który wspólnie współtworzymy pamiętając o przeszłości i trudnych początkach.

Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej to miejsce zachowania jakże ważnego dziedzictwa kulturowego Białorusinów, Kultury materialnej naszych przodków, czyli działalność typowo muzealna oraz szeroko rozumiane działania animacyjne, kulturotwórcze - to ważna misja dla rozwoju kultur, języka i utrzymania swej tożsamości dla wszystkich narodów.
Trudno jest spojrzeć na placówkę z dystansem, będąc w niej od środka i współtworząc ją - niech oceniają inni.

Pierwszymi moimi obowiązkami było m.in. dokończenie stałych ekspozycji etnograficznych – wystaw „Dzień za dniem" i „Zanim chleb położono na stole", pracę nad nimi prowadziłem wspólnie z żoną Agnieszką, Wiktorem Kabacem, Natallą Giersimiuk i Janem Leszczukiem. Pod okiem etnografa p. Neli Szczuki wybraliśmy odpowiednie eksponaty, przeprowadziliśmy niezbędne sesje fotograficzne, m.in. podczas ekspedycji etnograficznych, położyliśmy fragmenty strzechy, dzięki uprzejmości Mikołaja Korcha. Z każdym dniem wystawy nabierały kształtu, tak by wkrótce móc służyć edukacji i zachowaniu pamięci po naszych przodkach. Była to żmudna, ale ciekawa praca. Niedługo później wystawy zyskały pełny obraz i udostępnione zostały zwiedzającym.

Muzeum nie jest typową muzealną placówką naukową, jest raczej stowarzyszeniem posiadającym muzealne ekspozycje.

Kilka lat później od podstaw urządziliśmy kolejną – trzecią stałą ekspozycję muzealną, tym razem chcieliśmy połączyć tradycję z nowoczesnością, bo takie instytucje winny nadążać za otaczającym nas światem, za zmianami, tak by sobą zainteresować współczesnego człowieka, zarówno tego poszukującego śladów po swoich przodkach jak i tego szukającego atrakcji turystycznych. Wystawę „Rzemiosło na białoruskiej wsi Podlasia" zaprojektowała Agnieszka Tichoniuk. Prace trwały wiele miesięcy, wiązało się to również z wyjazdami w poszukiwaniu odpowiednich eksponatów. Rozwiązania muzealne podpatrywaliśmy i podczas wyjazdów na Białoruś, m.in. na zamku w Mirze. Udało się pozyskać ich niemal 100 i niemal wszystkie znalazły się na nowej ekspozycji. Nigdy nie zapomnę tych dni, a nawet i nocy, kiedy tworzyliśmy trzecią stałą ekspozycję Muzeum – dziś jednak z satysfakcją zerkam na tę wystawę - niech służy – warto było. Przy tej wystawie, podobnie jak i przy poprzednich pracowało kilka osób: żona Agnieszka, Jan Leszczuk, Witold Tichoniuk, Wiktor Kabac..

Muzealne kolekcje eksponatów i stałe ekspozycje stanowią jakby sedno placówki, Muzeum jednak to nie tylko zachowywanie spuścizny po naszych przodkach, to również Ośrodek Kultury Białoruskiej. To właśnie do rozszerzenia tej sfery działalności instytucji, ponad osiem lat wcześniej przyjął mnie do pracy ówczesny dyrektor – Jan Karpiuk.

Od tamtej pory przeprowadziliśmy setki przedsięwzięć - rozmaitych, tak by móc trafić do jak najszerszego grona odbiorców.
Dziesiątki festynów etnograficznych „Kultura na schodach Muzeum", festynów we wsiach Białostocczyzny „I tam żywuć ludzi", koncertów „Muzyka bez zastrzeżeń", dziesiątki wystaw czasowych i z Polski, i z Białorusi, choinek dla dzieci, przeglądów „Mastackija sustreczy szkolnikau", konkursów, spotkań, prezentacji. Wszystkie te przedsięwzięcia ściągnęły do Muzeum tysiące ludzi - tym samym „Dom Białorusina" jakby oddycha i żyje, tak jak chciał tego budowniczy Konstanty Mojsienia.
Żeby tak jednak było trzeba się zdecydowanie poświęcić idei, tak jak całego siebie wkładał w budowę Muzeum Konstanty Mojsienia.

Dziś przyszło nam tworzyć to miejsce, z tym, że już w nieco innym sensie.

**„Już od sześciu lat pracujesz w Muzeum i Ośrodku Kultury Białoruskiej w Hajnówce. Czy ta placówka jest potrzebna miejscowym Białorusinom?**

- Oferujemy Białorusinom coś wybitnie swojego, a osoby, które to rozumieją i doceniają, korzystają z tego z satysfakcją. To jedyne takie miejsce w regionie.



Jesteśmy dość prężni. Jeśli takie ośrodki nie są potrzebne, to można również podważyć zasadność istnienia innych ośrodków kultury. Muzeum ma duże, jeszcze nie wykorzystane, możliwości. Chcemy zachowywać to, co odchodzi i upowszechniać współczesną kulturę Białorusinów. Można nawet to co robimy nazwać misją. Pewnie, że zawsze można coś robić lepiej, więcej. To ludzie, którzy do nas przychodzą, są dla nas dowodem znaczenia tego co robimy. Na szczęście jest sporo takich ludzi, w różnym wieku, i niekoniecznie z Hajnówki. W ostatnim czasie najmłodsze pokolenie podlaskich Białorusinów tu zaczyna poznawać swoje korzenie. Póki co może nawet nieświadomie, ale właśnie u nas..

**Czy w czasach, kiedy społecznościowe stają się nie miejsca a platformy internetowe, młodzi ludzie potrzebują takiego ośrodka? W jakim kierunku musi on ewoluować, by przyciągał młodzież?**

-W dobie Internetu rzeczywiście trudno jest sprostać wymaganiom młodzieży. Nie spodziewamy się oblężenia, ale ta młodzież jednak chce przychodzić, spotykać się i to z różnych środowisk i z różnych powodów. Mamy na przykład grupę „Etno", klub filmowy „Środa", koncerty „Muzyka bez zastrzeżeń", grupę teatralną „Sieweńka", próby zespołów czy rozmowy o sztuce. Wiele z tych osób „poszło w świat", przyjeżdżając jednak na ojcowiznę znajdują chwilę dla Muzeum i z tego się bardzo cieszę. Każda instytucja musi sprostać galopującym zmianom w świecie i dostosowywać do współczesnych standardów. Staramy się, by nasza placówka była nowoczesna, zachowując jednocześnie idee, dla których zainicjowano całe przedsięwzięcie, czyli bez gubienia korzeni. Szanse na rozwój widzę też w praktykowaniu różnorodnych form działania i otwartości we współpracy z pokrewnymi organizacjami.

**Czy to miejsce może być platformą spotkania z kulturą białoruską także Polaków, którzy często operują stereotypami?**

- Oczywiście. W nasze projekty i przedsięwzięcia angażują się osoby, które nie wywodzą się ze środowiska białoruskiego. Ani język, ani ludzie nie są tu przeszkodą, wręcz odwrotnie z ciekawości próbują mówić „po swojomu"... Poza tym młodzież, która do nas przychodzi, z mieszanych środowisk, doskonale orientuje się w specyfice kultury białoruskiej. W białorusko-polskich koncertach „Muzyka bez zastrzeżeń" licznie uczestniczyła młodzież niekoniecznie białoruska, taka zresztą była idea tych koncertów.

**Powiedz coś o twojej białoruskości...**

- Wywodzę się z rodziny białoruskiej i białoruskość traktuję bardzo naturalnie, a na Podlasiu czuję się u siebie po prostu... Mieszkając wcześniej w stolicy czy Wrocławiu czułem się dobrze ze swoim pochodzeniem, myślę nawet, że my z Podlasia



а менавіта на ёй прыходзілася друкаваць каталогі, бо пра кампутары і прынтары можна было толькі сніць.

Бібліятэка ўсё больш станавілася *сапраўднай бібліятэкай*. Была мэбля, былі каталогі, кнігам было прасторна і камфортна, чытачам, думаю, таксама. Час ад часу мне нават звярталі выдаткаваныя на кнігі грошы. Здавалася б – чаго больш? А хацелася большага. Хацелася мець у бібліятэцы кампутар, праектар, адмысловую бібліятэчную праграму, стварыць электронны каталог, каб чытачы з усяго свету праз інтэрнэт маглі даведацца ці ёсць патрэбная ім кніга ў Гайнаўцы. Дарэчы, літаратура, якую збірала бібліятэка, падпарадкоўвалася двум прынцыпам – усё, што на беларускай мове і усё, што пра Беларусь, беларусаў і беларускасць на любой мове свету. Таму і чытачы прыбывалі з розных куткоў Зямлі – і з Нямеччыны, і з Вялікабрытаніі, са Злучаных Штатаў ды іншых краін. Дык вось, хацелася большага, і бачна было, што не ўдасца дасягнуць усяго за адзін раз, таму маленькімі крокамі трэба ісці наперад. І ішлі. Прывалакла з хаты стары ноўтбук, сябра пазычыў друкарку, каталогі можна было ўжо друкаваць больш “цывілізаваным” спосабам. Праўда, доступу ў інтэрнэт не было, але ўдалося знайсці нейкую простую бясплатную праграму, каб рабіць электронны каталог. Далей – больш. Штодзень у бібліятэку прыходзіла па некалькі дзесяткаў чытачоў, ніхто не выходзіў без кніжкі. Ладзіліся сустрэчы з пісьменнікамі, прыходзілі прыхільнікі літаратуры, завязаўся гурток “Аматараў славянскіх літаратур”, вяліся дыскусіі і абмеркаванні.

Завершылася будова музея, здавалася, што цяпер знойдуцца грошы на ўсё – і на кніжкі ў тым ліку. Але пэўнага разу, прывезшы чарговую партыю кніжных навінак, я пачула дзіўную фразу: “Гэтым разам мы табе яшчэ грошы звернем, але больш ужо не купляй кніг, бо іх у бібліятэцы і так дастаткова”. Я аслупянела. Як можна не купляць кніг? А што з навінкамі? А што з чарговымі тамамі шматтомнікаў? Ці існуе паняцце “бібліятэка больш не патрабуе кніг, бо і так мае шмат”? О, не! Кніг ніколі недастаткова. Бібліятэка, якая не папаўняецца – мёртвая бібліятэка. Не купленая сёння навінка праз месяц можа каштаваць трыдарага. І вырашыла, што не па тое я столькі працы паклала, каб цяпер сваімі ж рукамі сваё дзіця ўсмерціць. Таму надалей ездзіла ў Беларусь, абавязкова наведвала кнігарні, цягнула дзесяткі кілаграмаў выдавецкіх навінак, трацячы на іх, часам, паўзарплаты. Хатні бюджэт трашчаў у швах, але пакінуць вандроўкі па кнігарня у пошуках цікавых пазіцыяў не магла. Гэта ўжо была хвароба – бібліятэчны сіндром. Бальзамам на душу была ўдзячнасць чытачоў.

***

Сёння бібяліятэка мае гарантаваныя грошы на пакупку кніг, мае кампутар з доступам у інтэрнэт, мае адмысловую бібліятэчную праграму, мае





таксама свой электронны каталог на сайце Беларускай Інтэрнэт-Бібліятэкі Kamunikat.org. Мары спаўняюцца, трэба толькі верыць і маленькімі крокамі ісці наперад.



**Наталля Герасімюк**- ur. w Brześciu na Białorusi, ukończyła Państwowy Uniwersytet im. APuszkina w Brześciu; nauczyciel w szkole w Wysokim (Białoruś); od 1993 r. mieszka w Hajnówce; w latach 1997- 2006 bibliotekarka oraz referent organizacyjny w Muzeum; obecnie dziennikarz Radio „Racja”; współtwórca Białoruskiej Biblioteki internetowej Kamunikat.org



## Ян Карчэўскі: Моладзь у музеі

Амаль ад самага пачатку пабудовы музея была тут прысутная моладзь Гайнаўскага беларускага ліцэя. Дзяўчаты і хлопцы прыходзілі разам са сваімі настаўнікамі, каб разгрузіць нейкія будаўнічыя матэрыялы, перанесці з аднаго месца ў другое плітку, дошкі і іншае, папрыбіраць у памяшканнях будынка. Дык вось і нічога дзіўнага, што, калі Музей і асяродак беларускай культуры пачаў штораз шырэй развіваць сваю дзейнасць, знайшліся тут шматлікія прапановы для маладых людзей – вучняў гайнаўскіх школ.

Адным з большых мерапрыемстваў сталі, традыцыйныя ўжо – мастацкія сустрэчы школьнікаў. Гэта прэзентацыі беларускага рэпертуару (вершаў, песень, гавэндаў, гумарэсак, інсцэніровак, музыкі), галоўным чынам, гайнаўскіх школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. Ідэя была такая, каб паказаць гайнаўскай публіцы выдатны плён працы, якую штодзённа з намаганнем і запалам выконваюць настаўнікі беларускай мовы са сваімі навучэнцамі – падчас урокаў і пасля іх. Часта ў час усялякіх конкурсаў ці аглядаў шырэйшай публікі няма, а складаюць яе тыя, хто выступае на сцэне. Тымчасам на мастацкія сустрэчы прыходзяць браты і сёстры выступоўцаў, бацькі, бабулі, дзядулі, суседзі, знаёмыя. Яшчэ адна асаблівасць мерапрыемства, якое ладзяць супольна Беларускі музей ды Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы – гэта сустрэчы некалькіх пакаленняў. Упершыню праект здзейсніўся ў 2004 годзе і з гэтага часу пастаянна рэалізуецца год у год.

Ад самага пачатку ўдзельнікамі «сустрэч» з'яўляюцца вучні Падставовай школы н-р 3 у Гайнаўцы. Дзеткі, пад кірункам настаўніцы Марыі Крук, рыхтуюць цудоўныя інсцэніроўкі абрадаў, звязаных з этапамі ў жыцці чалавека. Паказвалі яны хрысціны, сватанне, а таксама вяселле. Цікава, што ў сваіх выступленнях дзяўчаткі і хлопцы выкарыстоўваюць даўнія, аўтэнтычныя вясковыя прылады працы і старую вопратку, якія знаходзяць у сваіх вясковых дзядуляў і бабуляў. Усім абрадам спадарожнічаюць цудоўныя спевы і танцы ў выкананні маладых акцёраў. Іншай, цікавай формай гайнаўскай «тройкі» з'яўляюцца інсцэніроўкі беларускіх народных песень.

Пастаяннымі ўдзельнікамі «Мастацкіх сустрэч» з'яўляюцца таксама вучні Комплексу школ н-р 3, што пры вуліцы Новаваршаўскай у Гайнаўцы. Тут, у пачатковай школе і гімназіі, у карысць беларускай справы аддана працуюць настаўніцы Людміла Грыгарук і Бэата Кендысь. Навучэнцы спадарыні Людмілы вельмі ўдала паказваюць нашыя даўнія традыцыі. Надоўга застануцца ў памяці іхнія прадстаўленні «Кірмаш» ці «Вячоркі». Падапечныя спадарыні Кендысь кожны раз захапляюць публіку сваімі танцавальнымі ды вакальнымі здольнасцямі, а таксама арыгінальным гумарам. Пры нагодзе трэба ўзгадаць пра адукацыйныя вартасці, якія ідуць услед за нашымі «сустрэчамі».

Амаль штогод на Мастацкіх сустрэчах школьнікаў паяўляюцца вучні Комплексу школ н-р 2 з інтэграцыйнымі аддзеламі ў Гайнаўцы. Яны, пад кірункам сваіх настаўніц – Эвы Анішчук і Аліны Якімюк рыхтуюць цікавыя пастаноўкі, паводле беларускіх народных казак – «Рэпка», «Прынцэса не хачу», «Ведзьма і Ганушка», «Муха-пяюха». Настаўніцам у іх пазакласнай працы на беларускай ніве шмат у чым дапамагаюць бацькі дзетак.

Найстарэйшымі ўдзельнікамі нашага мерапрыемства з'яўляюцца вучні белліцэя. Менавіта перад гайнаўскай публікай найчасцей прэзентаваліся члены тэатральнага гуртка «Драма», які дзейнічае ўжо больш дзесяці гадоў. Ліцэйская моладзь, перш за ўсё рыхтуе п'есы паводле твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў – Янкі Купалы, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Каруся Каганца, Уладзіміра Галубка, Наталлі Арсенневай і іншых. Вучні белліцэя шмат разоў выступалі таксама з вершамі, песнямі і гумарэскамі.

Арганізатары «мастацкіх сустрэч» імкнуцца, каб імпрэза не была штампавай, таму не абмяжоўваюцца толькі выступленнямі школьнікаў. У апошнія гады адбыліся адмысловыя канцэрты студэнцкіх гуртоў «Бэтон» ды „Królik na uwięzi”. Прэзентаваліся таксама навучэнцы гайнаўскай Музычнай грамадскай школы I ступені. Вялікае зацікаўленне і захапленне публікі выклікалі дашкольнікі з Самаўрадавага садка н-р 1 у Гайнаўцы. Дзякуючы дадатковым рэгіянальным заняткам, якія там вядуць настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, дзеткі могуць паказаць беларускі рэпертуар.

Трэба шчыра падзякаваць усім тым, хто ўключыўся ў рэалізацыю Мастацкіх сустрэч школьнікаў і дзякуючы каму мерапрыемства знайшло сваё трывалае месца як у сценах Беларускага музея, так і на культурнай мапе горада Гайнаўка.

Чарговым праектам, адрасаваным моладзі і пры якім прыйшлося мне нейкі час з прыемнасцю працаваць, быў калектыў «Сявенька». Удалося «ўцягнуць» у яго невялікую групу ліцэйскай моладзі. Пайшлі ў напрамку кабарэ, што, можа, не да канца ўдалося. Тым не менш маладыя людзі з ангажаванасцю прыкладаліся да вывучэння рэпертуару, у якім дамінаваў гумар, у значнай большасці тэксты сучасных беларускіх аўтараў. Паралельна паявілася цікавая з'ява – дзяўчаты пачалі спантанна прыдумваць уласныя тэксты да сваіх скетчаў. Вядома, што паявіўся моўны бар'ер, бо дзяўчат ад маленства, здаецца, вучылі гаварыць па-польску. Тым не менш, пры невялічкай дапамозе ў іх выходзілі даволі смешныя дыялогі Гандзі і Мані. Вось прыклад адной з такіх арыгінальных гумарэсак. Яе мова адыходзіць крыху ад літаратурных нормаў, але ў інтэрпрэтацыі ліцэістак яна гучала сапраўды выдатна:

- Добры дзень! Гандзя, як мы доўга не бачыліся.
- Ай, добры, добры. Ты штосьці адмаладнела, добра выглядаеш Маня.



- А, бо знаеш, я купіла новую хустку на рынку, а ў сераду танія былі – пяць злотаў за кілаграм.
- Ооо, но так, і я пайду таксама куплю. А знаеш ты, я маю рэвэляцыю. Мая дачка нарадзіла сыночка. Антось назвалі.
- О то будзе каму гаспадарку перапісаць.
- А будзе. Бо знаеш ... мая дачка гаспадаркі не хоча, дык яна ўжо да города пхаецца.
- Ай, такія часы. Цяпер у нас таксама ўсе як мястовыя. О! Ты ведаеш Іванову дачку?
- А ну знаю, такую чорненькую?
- Так, я бачыла яе зноў з новым хлопцам. Яна іх як кальсоны мяняе.
- О, ты бачыш разгулялася!
- А я ўсё бачу. Кветкі падліваю, каб не было, што ў акне сяджу.
- Ну так, і што далей?
- І яна ішла з гэтым хлопцам, задніца на верху, спадніца як бы ад малодшай сястры забрала. Думае, што ў Амерыцы. А завушніцы вялікія як у каровы.
- А хлопец як?
- Мог бы быць, о-о-о вочы то як зоркі тыя.
- Такія прыгожыя?
- Не, адно вышэй, а другое ніжэй.
- Што не гавары, але яна яшчэ дагуляецца!
- О, так-так! Памятаеш, як калісь гэтай Тэклі Сямёнавай спадніцу на галаве завязалі?
- Памятаю-памятаю, гэта пасля забавы, ранкам, якраз усе няслі малако ў малачарню, рогатам канца не было.
- Што праўда, то праўда. А твой Коля дзе прападае?
- Корова збыдловала, то ўзяў хлопцаў і павялі да бычка.
- А нашто дзеці? Сам не мог гэтага зрабіць?
- Хіба мог бы,
- Ну, маеш, бабо, пляцак, табе толькі адно ў галаве!
- Не адно, не адно, ой хіба лістаноша з рэнтаю пайшоў да мяне. Пабягу хучэй.
- А бяжы, бяжы, не так за рэнтаю, як за тым лістаношам. Порхаўка старая!

«Сявенька» прадстаўляла свой рэпертуар у час фэстаў, ладжаных Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы і вёсках Гайнаўскага павета. І вось, калі здавалася – ужо-ўжо і «мая» моладзь праглыне *bakcyla* беларускасці, праект трэба было спыніць, таму што не атрымаў ён дафінансавання. Грошы былі невялікія, але ўсё-такі неабходныя. Усё ж нешта засталося. Дзяўчаты яшчэ доўгі час выступалі са сваімі гумарэскамі на школьных і іншых мерапрыемствах.

Вельмі карыснымі для школьнай моладзі праектамі з’яўляюцца ўсялякія майстар-класы. А музей прапануе іх шмат – ганчарскія, па выяўленчаму мастацтву ці па ювелірных вырабах. Заўсёды знаходзяцца





ахвотныя дзяўчаты і хлопцы, якія ў свабодныя ад вучобы дні прыходзяць у музей, каб развіваць свае здольнасці. Усё гэта – пад кірункам выдатных майстроў і мастакоў.

Немагчыма пералічыць усе мерапрыемствы, адрасаваныя маладым людзям. Гэта і музычныя канцэрты, і тэатральныя спектаклі, сустрэчы з цікавымі людзьмі, музейныя ўрокі і шмат чаго іншага.

Цешыць, што хаця некаторыя нашыя парасткі пасля першага разу вяртаюцца сюды, бліжэй цікавяцца тым, што адбываецца ў Беларускім музеі і пачынаюць адчуваць «свой беларускі блюз».

**Ян Карчэўскі -** nauczyciel języka białoruskiego w Liceum „Białoruskim” w Hajnówce, od 2003 r. wiceprezes Stowarzyszenia, białoruski działacz społeczny





## 4. List Ministerstwa Administracji i Cyfryzacji



Warszawa, 2 października 2012 r.

RZECZPOSPOLITA POLSKA

MINISTERSTWO
ADMINISTRACJI I CYFRYZACJI
SEKRETATZ STANU
*Włodzimierz Karpiński*

**Do Kierownictwa i Pracowników**
**Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej**
**w Hajnówce**

Szanowni Państwo

Z okazji jubileuszu 30-lecia ukonstytuowania się Społecznego Komitetu Budowy Muzeum Białoruskiego w Hajnówce chciałbym na Państwa ręce przesłać najserdeczniejsze życzenia sił i wytrwałości w gromadzeniu i dokumentacji dorobku kulturalnego mniejszości białoruskiej w Polsce. Szczególne wyrazy szacunku składam na ręce tych, którzy 30 lat temu podjęli się trudu budowy Muzeum Białoruskiego w Hajnówce oraz rodzin tych osób zaangażowanych w projekt budowy Muzeum, które nie doczekały jubileuszu.

Wśród podmiotów, których działalność wspierana jest z budżetu ministra właściwego do spraw wyznań religijnych oraz mniejszości narodowych i etnicznych , Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce zajmuje miejsce wyjątkowe. W skali całego kraju niewiele jest inicjatyw organizacji pozarządowych służących zachowaniu i muzealnej prezentacji kulturowego dziedzictwa mniejszości. Muzeum Białoruskie w Hajnówce jest jedyną tego typu placówką, która oprócz bogatej działalności stricte muzealnej aktywnie prowadzi także działania kulturalne. Wyjątkowa jest także skala i rozmach działań podejmowanych przez Muzeum. Gdy przed 30 laty grupa zapaleńców kierowanych przez Pana Konstantego Mojsienię postanowiła utworzyć na nowo placówkę dokumentującą dorobek kulturalny i dziedzictwo materialne mniejszości białoruskiej w Polsce nikt chyba, poza największymi entuzjastami projektu, nie mógł przewidzieć, że w tak krótkim czasie muzeum stanie się placówką kluczową dla życia kulturalnego Białorusinów Podlasia. Po upływie 30 lat, zbudowane staraniem Białorusinów z Polski i ze świata Muzeum, jest nie tylko powodem do dumy środowiska białoruskiego w Polsce, ale i jedną z wizytówek Hajnówki i całego Województwa Podlaskiego.





Doceniając skalę działań Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce, Minister Administracji i Cyfryzacji (a wcześniej Minister Spraw Wewnętrznych i Administracji) stara się wspierać działalność placówki. W ostatnim okresie dzięki dotacjom Ministra ekspozycja stała Muzeum wzbogaciła się o kolejną stałą wystawę etnograficzną poświęconą rzemiosłu i rękodziełu ludowemu Białorusinów Podlasia. Przeprowadzono także remont sali kinowej, wraz z otoczeniem, w której odbywają się liczne przedsięwzięcia ważne dla mniejszości białoruskiej. Dzięki dotacjom przekazywanym przez Ministra stale organizowane są wystawy w ramach galerii sztuki współczesnej białoruskiej mniejszości. Galeria ta może również pozyskiwać kolejne dzieła sztuki do swego zasobu. Ministerstwo Administracji i Cyfryzacji wspiera także działalność unikatowej w skali kraju biblioteki gromadzącej i udostępniającej czytelnikom literaturę białoruskojęzyczną oraz literaturę z zakresu historii, kultury i dnia codziennego mniejszości białoruskiej w Polsce. Wsparcie finansowe otrzymuje również na działalność statutową Stowarzyszenie Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce prowadzące placówkę.

Wyjątkowo ważną z punktu widzenia Ministerstwa działalnością Muzeum jest cały blok imprez kulturalnych, z którym Muzeum wychodzi do widza. To niezwykle istotne i godne pochwały, że Muzeum nie czeka biernie na widza lecz dociera do niego z różnorodną ofertą kulturalną. W tym kontekście poza sztandarową imprezą Muzeum, jaką jest festiwal *Kultura na schodach Muzeum,* na szczególną uwagę zasługuje organizowany corocznie cykl festynów *I tam żywuć ludzi*. Festyny te są projektem niezwykle ważnym dla podtrzymania i rozwoju tożsamości kulturowej mniejszości białoruskiej. Ze swojego założenia adresowane są do ludzi zamieszkujących małe wsie, często znacznie oddalone od prężnych ośrodków życia kulturalnego mniejszości białoruskiej, takich jak Białystok, Hajnówka czy Bielsk Podlaski. Festyny docierając do miejsc, w których imprez kulturalnych promujących piosenkę i kulturę białoruską nie było od dziesięcioleci, uzupełniają w istotnym stopniu działania kulturalne podejmowane przez inne organizacje społeczno-kulturalne mniejszości białoruskiej. Ofertę kulturalną Muzeum wspieraną z budżetu Ministra uzupełniają koncerty rockowe z cyklu *Muzyka bez zastrzeżeń* adresowane głównie do młodego pokolenia oraz działalność białoruskiej grupy teatralnej odrodzonej w 2012 r. pod patronatem Muzeum.

Wspomniane powyżej działania podejmowane przez środowiska związane z Muzeum i Ośrodkiem Kultury Białoruskiej w Hajnówce w ocenie Ministerstwa Administracji i Cyfryzacji dobrze służą podtrzymaniu i rozwojowi tożsamości kulturowej mniejszości



białoruskiej w Polsce. W działaniach tych Muzeum ma w Ministerstwie oddanego i pewnego sojusznika, który w miarę swoich możliwości wspierał, wspiera i będzie wspierał działania kulturalne placówki.

Minione 30 lat to dopiero początek drogi. Przed Muzeum stoi teraz wiele wyzwań dotyczących jego dalszej działalności. Wierzę, że młode pokolenie Białorusinów kontynuujące działania swych znamienitych poprzedników, którzy budowali placówkę wraz z całym środowiskiem osób zaangażowanych w jej działalność, sprosta tym wyzwaniom i że wspólnie będziemy mogli świętować kolejne jubileusze placówki.

Z wyrazami szacunku



## 5. **Muzeum oczami mediów.**

### Юрка Ляшчынскі: Беларускія студэнты і музей. Пачаткі пабудовы ў 80-я гады ХХ стагоддзя

Беларускі музей у Гайнаўцы ў маёй працы і грамадскай дзейнасці заўсёды быў і ёсць важнай установай.

У васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя, калі афіцыйны назоў гучаў "Музей беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху" і пазней пасля падзення "камунізму" у Польшчы, стаў толькі Беларускім музеем і асяродкам культуры.

У васьмідзесятыя гады ў разгар беларускага студэнцкага руху, на музей мы, студэнты, глядзелі станоўча, але не падабалася нам другая частка яго назову "рэвалюцыйны рух". Быццам беларуская культура неад'емна спалучаная з гэтым "рухам". Неаднойчы казалі мы (але хто тады слухаў студэнтаў), што "рэвалюцыйны рух" непатрэбны для нашага музея. Падобнага тыпу сумневы выказвалі і беларускія эміграцыйныя колы, а менавіта адтуль ішлі найбольшыя грамадскія грашовыя ўзносы. Але казалі нам, што ў той час (гэта было пару гадоў пасля ваеннага становішча ў Польшчы) раздзяліць рэвалюцыйны рух і беларускую духоўную і матэрыяльную культуру было немагчымым. Наадварот, "рэвалюцыйны рух" нібыта даваў шанец на існаванне беларускай культуры. Так тлумачылі нам (пераконвалі нас) тагачасныя стваральнікі музея Канстанцін Майсеня і прафесар Аляксандр Баршчэўскі – актыўны прапагатар музейнай ідэі ў беларускім эмігранцкім асяроддзі.

Помню гэтак званыя "цаглінкі" – дабраахвотныя грашовыя ахвяраванні на пабудову музея. Мы, беларускія студэнты, што тут казаць, былі не надта заможныя і "цаглінкі" куплялі рэдка. Але той жа прафесар Баршчэўскі, пішучы артыкулы ў "Ніву", атрыманыя за іх ганарары пераказваў на пабудову музея.

Калі на пераломе 1985 і 1986 ўзнікла "Прысутнасць" – штомесячная студэнцкая старонка ў "Ніве", тады і мы свае ганарары, за напісаныя туды артыкулы, прызначалі на музей. "Ніва" тады друкавала адпаведную рубрыку з пералікам грашовых узносаў на пабудову музея. А пад амаль кожным артыкулам ў газеце быў допіс "ганарар на музей". Такім чынам і тагачасныя беларускія студэнты ўнеслі свой фінансавы, можа і невялічкі, уклад у пабудову. Сёння гэта немагчыма. Калі нехта займаецца беларускай справай, нават калі завецца яна "грамадскай", шукае спосабу на гэтым зарабіць. Тады ж была агульная ідэя.

Але, давайце вернемся ў тыя "змрочныя" васьмідзесятыя гады. Беларуская студэнцкая дзейнасць апроч таго, што рабілі мы на сваіх вучэльнях, у студэнцкім асяроддзі, распаўсюджвалася шырэй - ладзілі на роднай Беласточчыне рэйды-паходы. Летняя "Бацькаўшчына" ды ў весну і ў восень "Развітанне". І часта так здаралася, што на шляху студэнцкай вандроўкі была Гайнаўка. Тут жа і музей, якога ніколі не абміналі. Для яго мясцовых стваральнікаў была нагода, каб распавесці студэнтам як "цяжка, але і ахвярна будуецца музей".

Памятаю як Кастусь Майсеня ці Аляксандр Іванюк – дырэктар Гайнаўскага белліцэя (абодвух няма ўжо сярод жывых), праводзілі нас па будове і паказвалі што тут было, ды галоўнае – што БУДЗЕ!

"Вось тут, - казаў Майсеня, - будзе экспазіцыйны зал, а там на другім паверсе наладзім кіно і беларускую бібліятэку. А вось там, - ужо паніжаючы голас, дадаваў – наладзім друкарню. Будзем друкаваць беларускія газеты, кніжкі, - і яшчэ цішэй дадаваў – тое, што спатрэбіцца нашай справе. Друкарскія прылады дашлюць нам беларусы ў эміграцыі". На жаль, у той час на больш канкрэтную дапамогу з боку Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі разлічваць не было сэнсу. Хаця той "рэвалюцыйны рух" нібыта меў пераканаць суродзічаў з БССР аб "сацыялістычнай і рэвалюцыйнай" ролі музея.

Прыгадваецца мне як прагныя былі мы беларускай нацыянальнай гісторыі і літаратуры. У БССР яе не было, а на эміграцыі – удосталь. Тады слалі нам, беларускім студэнтам, тыя кніжкі пра гісторыю, газеты і зборнікі вершаў. На жаль, большасць пасылак была канфіскавана з увагі на іх (кніжак і газет) антыпольскі, антысавецкі ды яшчэ антысацыялістычны змест. Але, як і ўсё ў тыя ж васьмідзесятыя, запора не была ўжо такой шчыльнай. Трапіла ў нашы рукі паэзія Арсенневай, "Змагарныя дарогі" Кастуся Акулы і "Беларусь учора і сяньня" Язэпа Найдзюка. А газетныя выданні, як "Беларус", "Зважай" ці яшчэ нешта былі на парадку дня. Мы і самі друкавалі "літаратуру": лістоўкі, ксеракопіі эміграцыйных выданняў, дадаючы ад сябе: "Прачытай, перапішы і другому перадай". Тады думалі, што наўрад ці такая "літаратура" знойдзе месца ў беларускай бібліятэцы музея. Месца знайшлося.

Ды музей, гэта перш за ўсё старына, інакш кажучы экспанаты. З імі, так па-праўдзе, найбольшы боль і горыч. Па ўсіх тых мясцінах, дзе вандравалі ў сваіх рэйдах беларускія студэнты, такіх "экспанатаў", хатніх, гаспадарскіх прыладаў было процьма. Асабліва ў тых вёсках, якая былі ўжо выселеныя пад пабудову Семяноўскага вадасховішча. Нашыя рэйды "Развітанне" менавіта



там і праходзілі, таму і назоў такі – развітваліся з гэтым кусочкам малой Бацькаўшчыны, якую неўзабаве затопяць.

Прыгадваецца начлег у вёсцы Лука, бадай, у 1987 годзе. У апусташэлай вёсцы цэлае мноства featuring рознага тыпу гаршкоў, збанкоў, вазаў, вазонаў, якія валяліся на апусцелых панадворках. Гэта той час, калі жыхароў з 13 вёсак перасялілі ў Гайнаўку, Беласток ці іншыя месцы, як хаця б пасёлак шматпавярховікаў у Бандарах, але пабудова вадасховішча яшчэ не завершылася. Вёскі з іх сялібамі яшчэ не былі залітыя вадой. Таму пакуль можна было хадзіць, вандраваць па гэтым абшары.

Лука ў свой час славілася на ўсю ваколіцу ганчарамі, адсюль і столькі нікому ўжо непатрэбных гаршкоў. Ды не толькі гаршкі, на панадворках, у хатах, каморах, клунях ляжалі пакінутыя сундукі, колішнія маслабойкі, прасы з душой, жорны, малацілкі, цапы і сярпы. Усё гэта ідэальна надавалася ў музей беларускай матэрыяльнай спадчыны, але, напэўна, не "рэвалюцыйнага руху". Не трэба было б тады прасіць Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы вярнуць тое, што было пераказана пасля ліквідацыі Беларускага музея ў Белавежы ў пачатку сямідзесятых гадоў XX стагоддзя.

Экспанаты на незалітай яшчэ тэрыторыі Семяноўскага вадасховішча проста валяліся пад нагамі. Трэба было іх толькі сабраць і перавезці ў... менавіта, куды? Музея ў Гайнаўцы, як такога, яшчэ не было. Замаруджвалася яго пабудова ці то з прычыны нястачы сродкаў, ці то з адсутнасці адпаведных дазволаў... Так ці інакш, "экспанаты" для музея гінулі, іх расцягвалі, знішчалі, пакідалі. Чаго не расцягнулі, не знішчылі людзі, пасля заліла вада. Нават цяпер, калі гляджу на ўбогасць экспанатаў у Музеі і Асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, сэрца разрываецца, успамінаючы, як марнавалася беларуская матэрыяльная (вясковая) спадчына.

Ацалела няшмат, хаця многія проста для сябе, з сентыменту, пачалі збіраць старыну. У школах ствараліся гэтак званыя мясцовыя рэгіянальныя куткі. Паявіліся яны ў Бельску, у Орлі, Дубічах, Рыбалах. У Скарышэве спадар Фільяновіч стварыў уласны беларускі музей. І ў прыватных руках старыя прылады ўпргожваюць кватэры. Адным словам, пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы, якая цягнулася столькі гадоў, стала штуршком для таго, каб берагчы старыну. Бо гэта наша гісторыя. Толькі шкада, што той энтузіязм стваральнікаў Беларускага музея васьмідзесятых гадоў быў такі хаатычны. Мела гэта ўжо неўзабаве змяніцца. З пачаткам 90-х, пасля змены грамадска-палітычнага ладу ў Польшчы і Беларусі "рэвалюцыйны рух" адыйшоў у гісторыю, а пабудова Беларускага музея ўвайшла ў новы пакручасты этап, а жыццё – у капіталістычны лад, дзе рашае не ідэалогія, а грошы. Ці гэта лепш? Не ведаю. Напэўна інакш.

**Юрка Ляшчынскі-** Журналіст беларускай рэдакцыі Радыё Беласток





## Rafał Androsiuk

Choć w sferze kultury Hajnówka może poszczycić się wydarzeniami o randze międzynarodowej (Hajnowskie Dni Muzyki Cerkiewnej i Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej "Hajnówka") czy ogólnopolskiej, oferta kulturalna i rozrywkowa wciąż stanowi ogromne pole do zagospodarowania. Hajnowski Dom Kultury nastawia się na odbiorcę masowego, Miejska Biblioteka Publiczna oraz Fundacja "Muzyka Cerkiewna" skupiają się często na kulturze wysokiej i bardziej ambitnych, a co za tym idzie -kameralnych przedsięwzięciach. Natomiast lukę pomiędzy kulturą wysoką a masową stara się zagospodarować Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej.

Relacje telewizyjne z wielu wydarzeń i przedsięwzięć organizowanych przez muzeum pojawiają się w magazynie "Tydzień Białoruski" TVP Białystok oraz w programie "Białorusini w Polsce" Telewizji Biełsat. Mogą przybliżyć działalność placówki tym, którzy z różnych powodów nie pojawiają się na organizowanych przez nią wydarzeniach. A jest co pokazywać. Przeważająca większość przedsięwzięć ośrodka jest związana z tematyką białoruską, przez co jest interesująca zarówno dla Białorusinów z Podlasia (widzów TVP Bialystok), jak i Białorusinów zza wschodniej granicy (widzów Telewizji Biełsat).

Działalność Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce znacznie wykracza poza obowiązki określone w statucie stowarzyszenia. Placówka nie ogranicza się do gromadzenia i prezentowania eksponatów, dostarczając odbiorcom wiele zróżnicowanych propozycji kulturalnych.

Stałe ekspozycje etnograficzne - wizytówka muzeum - przybliżają życie białoruskiej wsi współczesnemu odbiorcy, u starszych mieszkańców Hajnówki nierzadko wywołują wspomnienia z dzieciństwa, a przed młodym pokoleniem i turystami z innych części kraju - odkrywają na nowo dawne Podlasie.

Kilka lat temu dużym uznaniem cieszyły sie zajęcia edukacyjno-rozrywkowe dla młodzieży. "Filmowe środy", czyli bezpłatne projekcje gromadzące miłośników kina, ferie dla różnych grup wiekowych, oraz Klub ETNO, zrzeszający amatorów białoruskiej kultury ludowej.

Obecnie dużym zainteresowaniem cieszą się wystawy z cyklu "Białoruski Alfabet Sztuki", prezentujące dorobek malarzy, rzeźbiarzy i fotografów z okolic Hajnówki. Stanowią znakomitą okazję do obcowania ze współczesną sztuką.

Ponadto muzeum prowadzi tymczasowe wystawy (w tym plenerowe) malarstwa, rzeźb, fotografii, ikon, plakatów, grafik komputerowych, rysunków i pokazy slaj-

dów, spotkania autorskie z miejscowymi białoruskimi artystami i literatami, koncerty muzyków (poezja śpiewana, folk, rock) i seminaria popularnonaukowe. Placówka posiada również własną bibliotekę, oczywiście z literaturą białoruską.

Festyny etnograficzne z cyklu "Kultura na schodach" to dobra okazja do zapoznania mieszkańców Hajnówki z ludowym rękodziełem. Jeszcze wartościowszą propozycją wydaje się cykl festynów z cyklu "I tam żyją ludzie", organizowanych w niewielkich miejscowościach powiatu hajnowskiego i bielskiego. Dzięki tej inicjatywie białoruska muzyka folklorystyczna i estradowa dociera do wsi, w których od lat nikt nie zorganizował żadnego koncertu ani innej formy imprezy kulturalnej.

Na szczególną uwagę zasługuje Festiwal Muzyki Rockowej "Rockowisko Hajnówka". Bujna muzyczna przeszłość obecnego dyrektora muzeum Tomasza Tichoniuka (perkusisty grupy VERITAS) miała zapewne niemały wpływ na zrodzenie i wprowadzenie w życie idei festiwalu rockowego z prawdziwego zdarzenia. Zgromadzona wokół niego grupa pasjonatów ciężkiego grania już od kilku lat wkłada wiele sił, serca i wolnego czasu w organizację i rozwój festiwalu. Z każdą edycją ranga imprezy rośnie, przyciągając coraz większe tłumy i coraz większe gwiazdy. A co najważniejsze - przyciąga też zespoły z Białorusi. Wypada tylko mieć nadzieję, że z roku na rok ich liczba też będzie rosnąć. Nie muszą być lepsze, niż są obecnie. Już są znakomite, o czym świadczy obecność tercetu The Toobes z Mińska w 2012 roku czy zespołu BN z Biarozy w 2011.

Przy tej okazji warto wspomnieć o świetnych, lecz niestety coraz rzadziej organizowanych koncertach białoruskiego rocka w wykonaniu białoruskich kapel z obu stron granicy - w murach muzeum grała już Rima, Ilo & Friends, 5SET5, Veritas, ZERO-85, Beton, Dali i Indiga z Mińska na Białorusi.
A w ramach "Jesieni Bardów" można było usłyszeć Wiktara Szałkiewicza, Aleha Kobzara z Nadzieją Artymowicz, Andreja Mielnikawa, Tatianu Biełanogaju, Zmiciera Wajciuszkiewicza, Relikt, Kasiu Kamockuju i Bosaje Sonca. Jest to doskonałym przykładem na to, iż poza propagowaniem kultury ludowej muzeum chce i potrafi pokazać, że Białorusini z powodzeniem tworzą współczesną sztukę i nowoczesną muzykę.

Kiedyś uważało się, że małym miasteczkom i małym wsiom, powinno pomagać centrum – na przykład Warszawa; że powinien ktoś przyjechać i coś zbudować, uruchomić, zorganizować, a miejscowi powinni wyłącznie otrzymywać i korzystać. W działalności Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej wyraźnie przewija się duża samodzielność i świadomość, że wszyscy jako społeczność, powinni sami rozpoznawać i zaspokajać swoje potrzeby zarówno kulturalne, jaki i związane z innymi dziedzinami życia. Kadra placówki swoimi działaniami udowadnia, że w



sferze kultury do zaistnienia dobrej oferty nie potrzeba wielkich pieniędzy, a jedynie pomysłowości, zapału do pracy i wiary w sukces.

Inicjatywy i przedsięwzięcia Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce są wdzięcznym i wartościowym materiałem do programów "Tydzień Białoruski" TVP Białystok i "Białorusini w Polsce" Telewizji Biełsat, a przede wszystkim - są nieocenione dla mieszkańców Hajnówki i całego regionu.

**Rafał Androsiuk -** wydawca magazynów "Białorusini w Polsce" (Belsat TV) i "Tydzień Białoruski" (TVP Białystok)





# IV. WPISY W KSIĘDZE GOŚCI

Niestety z braku miejsca możemy przedrukować tylko część wpisów, które stanowią część ostatnią „Kroniki Muzeum Białoruskiego" prowadzoną przez Juliana Kazberuka niestrudzenie do 2001 r. Wielkie słowa uznania należą się właśnie jemu, co wielokrotnie jest podkreślone w niżej cytowanych wpisach. Bez jego skrupulatnej pracy nie udałoby się stworzyć książki, którą mają Państwo przed sobą w dłoniach.



**Julian Kazberuk-** kronikarz Białoruskiego Muzeum w Hajnówce. Urodzony w 1934 we wsi Wiejki, gm. Gródek, Ukończył szkołę średnią w Łodzi, studia w Moskwie i jako wykształcony mgr inż. młynarz pracował w Białymstoku. Koleje losu pokierowały go do pracy w Hajnówce i Białymstoku w charakterze instruktora ekonomicznego, zaś w latach 70. do pracy w HPPD w Hajnówce. Potem przez 15 lat pełnił funkcję prezesa Spółdzielni Inwalidów „Postęp" w Hajnówce. Oprócz pracy zawodowej aktywnie uczestniczył w życiu społecznym miasta, za co został wpisany do „Księgi zasłużonych Hajnówce" oraz uhonorowany srebrną i złotą odznaką „Zasłużony Białostocczyźnie", a także odznaką 1000-lecia Państwa Polskiego. Zmarł w 2010 roku.

**Беларускі Музей**

*З нагоды адкрыцця*
*Беларускага музея ў Гайнаўцы*

Казалі нам, што ў вочы рэжа
І што псуе турыстам кроў
Музей няпольскі ў Белавежы
Паміж дубоў, паміж зуброў.

Нялюдскім варварскім загадам,




Як крывадушнік- фарысей,
Хутка ліквідавалі ўлады
Этнаграфічны наш музей.

Даробак знішчылі багаты
Нашых сяліб, нашай зямлі
І унікумы- экспанаты
У Цехановец аддалі.

А мы, упартыя, гадамі
З ахвяр грашовых землякоў
З натугаю будуем самі
У Гайнаўцы музей ізноў.

І ў павільёне ўжо гатовым,
Што вырас нам, як прыгажосць,
Музей мы адкрываем новы
Усім праціўнікам на злосць.

Дык, людцы добрыя, у хатах,
На панадворках чым хутчэй
Збірайце зноўку экспанаты,
Узбагачайце наш музей!

**Віктар Швед-** - jeden z najwybitniejszych poetów białoruskich w Polsce, ur. w 1925 r. we wsi Morze, absolwent Akademii Nauk Politycznych w Warszawie, dziennikarstwa i filologii białoruskiej Uniwersytetu Warszawskiego

*„У пяты, ці ў шосты раз жыццёвыя сцежкі прыводзяць мяне ў Гайнаўку, у выдатны асяродак беларускага духу, беларускасці. Зноў і зноў здзіўляюся мужнасці і непахіснасці апантаных людзей, якія не першы год самаахвярна займаюцца будаўніцтвам Музея. Пішу гэта слова менавіта з вялікай літары таму, што ў маім уяўленні гэта не проста беларускі музей, а духоўнае апірышча беларусаў на Беласточчыне /разам з праваслаўнай царквой/. Сведчанне таго, што тут беларусы жылі яшчэ стагоддзі назад.*

*Нізкі Вам паклон, актывісты стварэння і будаўніцтва Музея! Удзячная Беларусь ніколі гэтага не забудзе!*

**Пётр Краўчанка**- Міністр замежных справаў РБ
23.09.1994



*“...хацеў бы сказаць некалькі слоў пра сімвалічныя ахвяраванні тысяч звычайных простых людзей. Адны з іх ужо пастаялі на парозе Музея, другім яшчэ не давялося ці нават і не давядзецца пастаяць. Мне удалося... Белрусы ўжо сёння любяць і шануюць гэты свой унікальны Дом, хаця ён яшчэ не даведзены да ладу і чымсці нагадвае брыдкае вуцянё з вядомай казкі. Ужо сёння ён нас згуртоўвае, яднае, вучыць асэнсоўваць сваю гістарычную місію - такую, якую Бог дае кожнай нацыі. Пра гэта без усялякіх звонкіх слоў сведчыць кожнае прозвішча беларуса з вялізнага спісу ахвяравальнікаў, што жывуць ў розных краінах свету (Куды не трапяць беларусы...). Лічу за гонар далучыцца да гэтага спісу і я.*

*Маё шанаванне ўсім супрацоўнікам Музея.”*

**Андрэй Кукевіч** - Мінск, часопіс “Нёман”
27.05.1994

*“У гістарычнай памяці аб нашай глыбокай даўнасці, багатай традыцыі, слаўных людзях, арыгінальнай абраднасці і там нямала адыйшло ў памяць праз сам факт, што аб гэтай багатай духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускай Беласточчыны рэдка пісаліся хронікі, запісы ці навуковыя працы. А само ж жыццё на гэтым кавалачку зямлі пульсавала,было багатым ў факты, здарэнні, падзеі. І таму ідэя пабудовы музея як трывалага памятніка нашай гісторыі і з’яўлаецца сплачваннем доўгу перад гісторыяй. Было б дрэнна, калі б вялікі парыў беларусаў пры ажыццяўленні ідэі музея не быў запісны ў хроніцы. Нашчасце так не сталася, дзякуючы ахвярнасці спадара Юльяна Казбярука, які з вялікай ахвярнасцю і цярплівасцю стварае малы летапіс- хроніку музея. Праз сам гэты факт высокапаважаны Ю. Казбярук на трывала запішацца ў той хроніцы, якую сам стварае.”*

**Аляксандр Іванюк-** пенсіянер, былы дырэктар Агульна-адукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы

26.06.1994

*“Для кожнай нацыі,вельмі важнай справай ёсць тое, што па сабе пакідае сваім нашчадкам якую пакідае спадчыну і дзе (прынамсці часткова) яе паказвае.*

*Добра калі нехта аб гэтым памятае. Мы ў лепшай сітуацыі. Ў нас ёсьць чалавек які не толькі аб гэтым памятаў і падумаў, але сваю думку (якую многія называлі ідеяй-фікс) зрэалізаваў. Я не маю ніякіх сумненняў што чалавекам такім ёсць Сп. КАСТУСЬ МАЙСЕНЯ. З вялікай пашанай схіляю*





*перад Ім галову. Шкадую толькі што ў прошлым і цяпер я так мала магу Яму дапамагчы."*

**Мікалай Бушко-** дырэктар Гайнаўскага Дома Культуры
02.06.1995

*"Bo każdy z nas jest Odysem, co wraca do swej Itaki" (Leopold Staff)- w naszej pielgrzymce Życia wędkujemy do wyznaczonego sobie celu, ale zawsze, z największą troską, wracamy do swoich korzeni. Rodowód kulturalny zapewnia nam pewną ciągłość istnienia z naszymi przodkami, nie jesteśmy ludźmi „znikąd"- dlatego tak cenna jest inicjatywa ochronienia w muzeum kultury naszych pradziadów i Ojców. Inicjatywa Muzeum Kultury Białoruskiej w Hajnówce jest nie do przecenienia. Uczestniczę w niej od pierwszej chwili i w miarę swoich możliwości udzielam pomocy, ale z największym szacunkiem patrzę na jej inicjatorów i wykonawców. Tylko niezwykłe poświęcenie Pana K. Mojsieni spowodowało, ze przedsięwzięcie mogło być zrealizowane. Poświecenie własnych sił i życia oraz umiejętność skupienia wokół siebie ludzi, zainteresowanych tą ideą, doprowadziło do powstania w Hajnówce obiektu, który jest wielkim, bogatym i wzbudzającym podziw elementem naszego miasta. Nie może być większego wkładu w nasz dorobek i rozwój Hajnówki.*

*Z równym podziwem czytam Kronikę- dzięki mrówczej pracy autora, Jego poświęceniu, ocalono od zapomnienia ludzki trud i wysiłek."*

**Jadwiga Rudzińska- Patejuk** – Burmistrz Miasta Hajnówka
02.10.1995

*„Uczestniczę w budowie Muzeum od samego początku. W momencie powołania Społecznego Komitetu Budowy Białoruskiego Muzeum w Hajnówce pełniłem funkcję sekretarza. Na plenarnym posiedzeniu w kwietniu 1994 r. zrezygnowałem z pełnienia tej funkcji ze względu na stan zdrowia. Członkiem komitetu pozostaję nadal. Świadom jestem trudności, ale zrobiono bardzo dużo. Dzisiaj widać, jakie to będzie muzeum (budynek). Cieszę się, że uczestniczyłem w jego budowie. Pozostało do zrobienia bardzo dużo. Niech kontynuują zaczęte dzieło młodzi.*

*Życzę budowniczym wytrwałości i pomyślnego zakończenia dzieła (otwarcia muzeum). Panu Kazberukowi życzę dalszego zapisywania w Kronice, jako pamiątki młodym."*

**Panteleon Moroz**- emerytowany lekarz neurolog i psychiatra w Hajnówce, odznaczony srebrną i złotą odznaką „Zasłużony Białostocczyźnie" oraz brązowym, srebrnym i złotym Krzyżem Zasługi
20.11.1995



*„Беларускі музей ў Гайнаўцы ёсць і няхай заўсёды будзе сведчаннем прысутнасці традыцыі і культуры беларускага грамадства на Гайнаўскай зямлі. Няхай гэты асяродак, а можа нават і цэнтр беларускай культуры будзе месцам сустрэч усіх, каго спалучае захапленне да нашай культуры. Гледзячы на гэты будынак бачым людзей якія аддаюць свае сэрцы і час для справы пабудовы музея, але мне асабіста гэты будынак перад усім сп. Канстанцін Майсеня, якога смела можна назваць "бацькам" музея. Думаю што таксама вялікі удзел у пабудове маюць вучні і настаўнікі беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.*

*Складаючы паклон усім звязаным з пабудовай музея выказваю надзею на добрае супрацоўніцтва паміж школай і музеем і адначасова разлічваю на вашу дапамогу ў выхаванні маладога пакалення беларусаў моцна звязанага з беларускай культурай."*

**Яўген Сачко**- дырэктар II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы
03.03.1996



*"Гэта шчасце і вялікая радасць што тут ў гэтым Музеі будзем мець свой куток мы ўсе Беларусы.*
*Культурная спадчына нашых дзядоў і бацькаў -гэта вечны немінуючы скарб і велізарная сіла для маладога пакалення Беларусаў. Мы ўсе павінны на цэлы свет несці яе словы і ў гэты Музей вяртацца як птушкі ў свой родны кут. Жыве Беларусь!"*

**Віктар Кабац** - мастак,
25.04.1996

*„Ta kronika jest żywym zapisem powstawania naszego Muzeum. Jednocześnie stanowi cenne źródło historyczne, które z powodzeniem można wykorzystywać nawet w publikacjach naukowych. Kronika dokumentuje bardzo ważną*

*dziedzinę życia intelektualnego mniejszości białoruskiej, a zarazem pokazuje, w jaki sposób idea Muzeum stała się symbolem zachowania własnej kultury i utrzymania tożsamości narodowej.*

*Aż trudno uwierzyć, że istnienie tej kroniki zawdzięczamy praktycznie tylko jednej osobie- Panu Julianowi Kazberukowi. Który z pogodą ducha przyjmuje wszystkie przeciwności losu, jakie spotyka w trakcie jej tworzenia”*

**Nela Szczuka**- etnograf
1996

*“Не ведаючы адкуль мы прышлі - не будзем ведаць куды -ісці”*
*Толькі экспазыцыя музея з яе рэліквіямі беларусаў Беласточчыны, дасць адказ на гэта пытанне. Таму я і займаюся гэтай справай. Дзякуй людзям што яны яшчэ тут не забыліся хто яны ёсць.*
*З павгай”*

**Эдуард Агуновіч** - мастак
13.08.1997

*«Я шмат гадоў звязаны з актывістамі і супрацоўнікамі Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы. Людзі, якія стваралі гэты асяродак культуры, заслугоўваюць вялікай пашаны будучых пакаленяў беларусаў усяго свету.*

*Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы (ужо сёння, а шчэ больш заўтра) будзе сведчаннем таго, што мы, беларусы, здольныя тварыць культуру еўрапейскага фармату, а значыць , маем дадзенае ад Бога права жыць самастойным і гістарычным жыццём.*
*Усім беларусам, якія дапамагаюць беларускаму музею, зычу мужнасці, дабра і шчасця. Хай нам дапамагае Бог!”*

**Сяргей Габрусевіч**- старшыня праўлення Гарадзенскага фонду культуры, прафесар Гарадзенскага універсітэту
04.04.1998

*“Jakże rad jestem, że Muzeum Białoruskie w Hajnówce powstało, i że stopniowo rozwija się i wzbogaca o nowe zbiory.*
*Moje najserdeczniejsze życzenia pomyślnej pracy przez długie lata.”*

**Czesław Miłosz**- poeta, laureat nagrody Nobla
06.08.1998



*„Jestem byłym kierownikiem Regionalnego Białoruskiego Muzeum Etnograficznego w Białowieży. Byłem pracownikiem etatowym BTSK (Białoruskiego Towarzystwa Społeczno- Kulturalnego) w Białymstoku i od 1 marca 1967 r. kierownikiem Muzeum do połowy 1972 r, kiedy to otrzymałem wypowiedzenie z pracy w trybie ustawowym, z powodu likwidacji mojego etatu. Przeniosłem się do Warszawy i pracuję obecnie jako Główny Inwentaryzator w Państwowym Muzeum Etnograficznym.*

*Muzeum Białoruskie w Białowieży zebrało w latach 60-tych i na początku lat 70- tych około 1200 obiektów reprezentujących gospodarkę podstawową, rzemiosła, stroje, tkaniny, sztukę, folklor i wiele innych dziedzin kultury ludowej Białorusinów, mieszkających na Białostocczyźnie. „Rozwalenie" Muzeum Białoruskiego w 1972 r. przez ówczesne władze i innych decydentów było katastrofą dla dziedzictwa kulturalnego Białorusinów, mieszkających w Polsce.*
*Cieszy mnie, że Białorusini nie załamali się i od lat 80-tch XX wieku usilnie, pomimo licznych trudności, pracują nad stworzeniem od nowa białoruskiej placówki muzealnej i starania te są już na ukończeniu. Nowe Muzeum Białoruskie w Hajnówce, stworzono społecznie „prawie z niczego", pomimo braku dostatecznego wsparcia. Świadczy to o determinacji aktywistów białoruskich. Nowy budynek Muzeum Białoruskiego w Hajnówce może posłużyć w wielu wypadkach jako wzór do naśladowania przy budowie obiektów muzealnych.*

*Nie udało się niestety zgromadzić tak reprezentatywnej kolekcji zabytków białoruskich, jaka była w Muzeum Białoruskim w Białowieży. Próby odzyskania utraconych obiektów muzealnych jak na razie spełzły na niczym i nic nie wskazuje na to by w najbliższym okresie udało się je odzyskać. Sądzę jednak, że działacze Muzeum Białoruskiego w Hajnówce, dzięki swojemu uporowi i determinacji odtworzą choć w części kolekcję poświęconą białoruskiej kulturze ludowej na Białostocczyźnie i to na tyle, by można było ją pokazać szerokiemu gronu znawców i turystów, jako reprezentatywny zespół obrazujący różnorodność i bogactwo tej kultury.*

*Życzę Wam, jako były kierownik Regionalnego Białoruskiego Muzeum Etnograficznego w Białowieży pomyślności w wielkim dziele stworzenia w Hajnówce Muzeum Kultury Białoruskiej.*
*Z poważaniem"*

**mgr Włodzimierz Gacuta**- były kierownik Regionalnego Białoruskiego Muzeum Etnograficznego, główny inwentaryzator w Państwowym Muzeum Etnograficznym w Warszawie
20.06.2001

*„Jestem pełen podziwu dla wszystkich tych ludzi, którzy poświęcając swój czas, wysiłek i skromne środki finansowe, podjęli się czegoś z pozoru niewykonalnego, czyli stworzenia i budowy muzeum i osiągnęli to. Serdecznie za to dziękuję.*





*Mam wielką nadzieję, że miejsce to będzie służyło nie tylko upamiętnieniu przeszłości, ale też będzie ośrodkiem spotkań, dyskusji, kultywowania kultury białoruskiej- wreszcie miejscem, w którym ludzie niezależnie od ich etnicznych korzeni spotkają się w przyjaźni i ze wzajemnym zainteresowaniem."*

**Włodzimierz Cimoszewicz**- *doktor nauk prawnych, Premier Rządu RP (1996-97),*
*Minister sprawiedliwości (1993-95),*
*Wicemarszałek Sejmu i przewodniczący Komisji Konstytucyjnej (1995-96),*
*Poseł od 1989 r, Minister Spraw Zagranicznych (2001-2005)*
*Lipiec 2001*

*„Грамадзкаму камітэту пабудовы музея цэнтра беларускай культуры ў Гайнаўцы.*

*Вы робіце вельмі важную справу для Рэспублікі Беларусь! Ваша дзейнасць - цудоўны прыклад самадданай працы на карысць беларускасці! Шанаванне роднага слова, беларускай гісторыі і культуры- галоўная справа для кожнага беларуса дзеб ён ні жыў!*

*Мы можам ганарыцца Вамі. Шчасця, дабрабыту, здароўя і ўсяго найлепшага.»*

**Павел Латушка** - Амбасадар Беларусі ў Польшчы
15.12.2003

*„Kronika jest udanym dopełnieniem zmaterializowanej idei budowy Muzeum Białoruskiego w Hajnówce. Jest zapisem kolejnych po sobie uporczywych zmagań i postępów w budowie w samym centrum Hajnówki ośrodka kultury białoruskiej. Kronika przywołuje do wdzięcznej pamięci wiele osób i instytucji zasłużonych dla sprawy Muzeum z Konstantym Mojsienią na czele, którego trud i poświęcenie nie znało granic.*
*Wyrażam głębokie pragnienie, aby Muzeum stało się wiodącym w kraju ośrodkiem kultury białoruskiej.*
*Słowa uznania dla kronikarza Pana Juliana Kazberuka"*

**Anatol Ochryciuk** - Burmistrz Miasta Hajnówka (1998-2010)
członek Stowarzyszenia Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce (od 1987 r.)
19.08.2003

*"Ніштo так не зблiжае народы, як духоўнасць! Культурныя сувязі паміж дзяржавамі заўсёды былі наперадзе палітыкі.*



*Усцешаны тым, што супрацоўнікі Музея і цэнтра беларускай культуры разумеюць гэта і годна выконваюць сваю гістарычную ролю."*

**Сяргей Давідовіч** - мастак, паэт, праaік, сцэнарыст
17.12.2005

*„Będąc w miłej gościnie w Muzeum i Ośrodku Kultury Białoruskiej w Hajnówce nasuwa się ważna refleksja: każda mniejszość etniczna i narodowa, w tym również białoruska, jest niezwykle cennym wkładem w rozwoju kultury ogólnonarodowej, ogólnopolskiej- i jako taką należy serdecznie wspierać i hołubić.*

*Twórcom, organizatorom składamy serdeczne podziękowania za ich trud."*

**Komisja Mniejszości Narodowych i Etnicznych**
Eugeniusz Czykwin, Henryk Kroll, Arkady Fiedler
03.10.2006

*"Вялікае дзякуй дырэкцыі музея, уладам Гайнаўкі, беларускаму асяродзю за цікавасць да выстаўкі беларускіх мастакоў. Сумесная спадчына - гэта наша з Вамі спадчына."*

**Міхаіл Аляксейчык** - Гэнеральны консул Беларусі ў Беластоку
28.09.2007

*„Komisja Mniejszości Narodowych i Etnicznych życzy Państwu, żeby to, co Państwo mają do pokazania ze swej białoruskiej kultury trafiało do serc wszystkich gości odwiedzających to arcyciekawe miejsce. Jako doświadczony muzealnik życzę Państwu, jak i cała Komisja, jak najwięcej gości i entuzjastów Waszego przedsięwzięcia."*

**Arkady Radosław Fiedler -** Poseł na Sejm
19.05.2011

*„Z wyrazami szacunku, podziwu z wielkim ukłonem."*

**Sławomir Preiss** - Poseł na Sejm
19.05.2011

*„Jestem pod wrażeniem „otwartości” Ośrodka na wielokulturowość i różne środki wyrażania białoruskości.*
*Życzę powodzenia w realizacji tej misji.”*

**Leszek Redzimski**- Poseł na Sejm z Chojnic
19.05.2011

*„Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой “РАДЗІМА” .*
*Вялікае дзякуй музею і ўсім супрацоўнікам за Вашу вельмі патрэбную працу.*
*З павагай і надзеяй на супрацоўніцтва.”*

**Максім Дубянок** - старшыня праўлення “РАДЗІМА” ў Мінску
11.08.2011

